# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991 №14 (135) 12 ЛІПЕНЯ 1999г.




### Беларускія ксяндзы

Высьвечаны тры першыя ксяндзы, падрыхтаваныя ад пачатку да канца ў Беларусі, у гарадзенскай сэмінарыі. Зьміцер Барыла з Глыбокага, Алесь Багдановіч з Браславу, Язэп Мельдзюк з Нарачы.

### Рэдактар «На страже» эміграваў

Рэдактар міліцэйскай газэты «На страже» папрасіў палітычнага прытулку ў адной з эўрапейскіх краінаў. Ён патэлефанаваў на беларускую службу радыё «Свабода» і сам ім пра гэта сказаў. Выцьцам бы яго спэцслужбы змушалі публічна прызнацца, што ён незаконным чынам даваў грошы на дзейнасьць генэралу Захаранку, свайму даўняму сябруку, а калі адмовіцца, гразіліся кінуць у турму й засудзіць за тое, што ён нібы купляў паперу для газэты па завышанай цане ў фірмы, у якой ягоная жонка працавала. У Менску супраць яго ўзбудзілі справу за фінансавыя махінацыі.

### Антыфашысцкі міні-канцэрт

Антыфашысцкага канцэрту ў Менску 11 ліпеня не было. Да Опэрнага тэатру падлучыцца не дазволілі, а карыстацца генэратарам, пазычаным у нейкай вайсковай часткі, забаранілі пажарнікі. Усё ж тыя 200 чалавек, што сабраліся на Траецкай гары, трохі пасьпявалі без мікрафонаў.

### Тры полацкія партызаны

Віцебскі гарнізонны суд 8 ліпеня асудзіў трох палачанаў за зрыў чырвона-зялёных сьцягоў з полацкіх «іспалкомаў». Прыцягнулі сэржанта Сяргея Лавейкіна і полацкіх студэнтаў Алега Кайдава ды Анатоля Блізьняцова, — піша Віцінфармбюро. 9 красавіка летась яны сарвалі сьцяг з рай- і гарвыканкаму. Праз год, 10 красавіка 1999, яны ж зьдзерлі сьцяг з райвыканкаму. Тады іх і прылавілі. На сьледзтве яны прызналіся, але апраўдваліся, што гэта было не хуліганства, бо сьцягі не адпавядаюць нашай гісторыі. Суд за «зьнявагу дзяржаўных сымбаляў» на 200 мільёнаў засудзіў Кайдава і Лавейкіна (гэтага яшчэ скінулі з сэржантаў у радавы). Блізьняцову, як пасобніку, далі 20 мільёнаў.

**Захаранка мог бы стаць небясьпечным канкурэнтам Лукашэнкі... Інтэрвію з маці Юр'я Захаранкі — на старонцы 3.**

# СІЛІВОНЧЫК — БАГАТЫР І ХАЛЕРЫК

***У чытача публікацыяў пра падзеі ў вёсцы Мікалаеўцы складаецца ўражаньне, што Анатоль Сілівончык — нейкі монстар, які прыехаў у Беларусь з адной мэтай — даць волю сваім садысцкім схільнасьцям — і чамусьці абраў для гэтага свае родныя мясьціны. Але ж людзі ў Мікалаеўцы ведаюць Анатоля зь дзяцінства, бо побач ягоная родная вёска Гамза. У Сьветлагорску ходзяць розныя вэрсіі падзеяў. Мы папрасілі расказаць пра А.Сілівончыка, аднаго з самых незвычайных і багатых беларусаў нашага часу, Ўладзімера Арлова, які добра ведаў самага калярытнага прадстаўніка беларускай дыяспары ў Сібіры. Ці можа Сілівончыку даравацца больш, чым даравалі б некаму іншаму, дзеля ягоных заслуг перад айчынай?***



*Анатоль Сілівончык з маці Настасьсяй Несьцераўнай на паломніцтве ў Полацку.*

«Анатоль часта прыязджаў да маці ў Гамзу, прывозіў туды на лета сваіх двух сыноў. Мне аднойчы давялося там быць, і я заўважыў, што аднавяскоўцы вельмі любяць Анатоля. Пра гэта сёньня ня кажуць. Некаторыя журналісты, праўда, узгадалі, што Сілівончык — яшчэ й мэцэнат. Але прагучала гэта досыць няўцямна, і таму мне хацелася б пачаць там, дзе іншыя ставілі кропку.

Варта нагадаць, што зь фінансавай падтрымкай Сілівончыка адбывалася пяцігадовая праца па стварэньні вобразу крыжа Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Пад час гэтай працы мастак-ювэлір Мікола Кузьміч аднавіў тэхналёгію перагародкавай эмалі часоў геніяльнага полацкага майстра Богшы — гэта пацьвердзілі прызнаныя аўтарытэты, дактары гістарычных навук з Акадэміі навук Беларусі Георгій Штыхаў і расейскія — Тацьцяна Макарава і Леанід Аляксееў. Пра значнасьць гэтай працы ўжо досыць шмат напісана.

Анатоль Сілівончык быў таксама фундатарам навукова-папулярнай кнігі «Жыватворны сымбаль Бацькаўшчыны», прысьвечанай гісторыі крыжа Сьвятой Эўфрасіньні, і фундаваў фільмы Віктара Шавялевіча «Шлях да сьвятыні» і «Пастка для зубра». На сродкі Сілівончыка была выдадзена адна з паэтычных кніг беларускага паэта з Санкт-Пецярбургу Анатоля Кірвеля. Таксама шырока вядома пра намеры Сілівончыка фінансаваць стварэньне і ўсталяваньне помнікаў Эўфрасіньні Полацкай у Менску і Полацку. Анатоль шмат дапамагаў полацкаму Спаса-Эўфрасіньнеўскаму манастыру і даваў грошы на праект яго рэгенэрацыі. Пад час адраджэньня манастыра ён фінансаваў адсяленьне мясцовых жыхароў, якія займалі будынак кельляў. Потым на ягоныя грошы для манастыра набылі мікрааўтобус.

Дарэчы, мікрааўтобус Сілівончык набыў і для сваёй роднай вёскі Гамза. Гэтым аўтобусам карыстаюцца і жыхары славутай цяпер Мікалаеўкі. Аўтобус працуе па графіку і, апрача таго кругласутачна дзейнічае як «хуткая дапамога» для мясцовых жыхароў, калі каму трэба ў бальніцу ў Сьветлагорску або ў Бабруйску. Апошнім беларускім праектам, на які даў грошы Сілівончык, было выданьне набору рэпрадукцыяў фрэскавых размалёвак XII ст. з полацкай Спасаўскай царквы.

Анатоль — безумоўна, неардынарны чалавек зь яркім халерычным тэмпэрамэнтам. Ён здольны на імпульсіўныя ўчынкі рознага кшталту. Летась ён выпадкова даведаўся пра адну менскую выпускніцу школы, якая засталася сіратой, і істотна дапамог ёй грашыма. Можна згадаць шмат эпізодаў, якія дэманструюць чалавечую шчырасьць Анатоля, ягоную гатоўнасьць на высакародны ўчынак. Таму мне бясконца сумна, што расейскія ваенізаваныя фармаваньні кшталту «Беркута» здолелі выкарыстаць нашага суайчыньніка ў сваіх мэтах.

*Працяг на старонцы 4.*

анонс

## ГОСЬЦЬ «НН» ІВОНКА СУРВІЛА

Першая беларуская дзяржава ў XX ст. — БНР — была створана 25 сакавіка 1918 г. Урад БНР большую частку свайго гістарычнага часу вымушаны працаваць за межамі Бацькаўшчыны. Рада БНР перахавалі ў чысьціні ідэю незалежнасьці, якая вярнулася ў Беларусь у 1991 годзе. Апошнія гады Рада БНР ня толькі ўважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі, але й актыўна спрычыняецца да жыцьця Бацькаўшчыны, праводзіць сваю замежную палітыку на карысьць Беларусі. Сёньня Старшыня Рады БНР — Івонка Сурвіла. Пра яе прагнозы на 20 ліпеня і парады беларускім палітыкам, а таксама пра яе самую чытайце ў гутарцы зь ёю ў наступным нумары «НН».



тэма нумару

## АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАГА ЎЧЫНКУ

**З апісаньня подзьвігаў складаецца эпас. Беларуская культура да свайго гераічнага эпасу толькі падступаецца. Падступаецца даўно, але кожнага разу які-небудзь чарговы Замяталін устае на шляху гэтага працэсу, і шэдэўр не высьпявае. Героі фальклёру, літаратуры і гісторыі не знаходзяць міжсобку жанравае сувязі менавіта таму, што ня выпісаныя ва ўчынках. Гэтак узьнікла ідэя рэдакцыі «НН» стварыць сваю Анталёгію беларускага ўчынку.**

*На старонцы 6.*

# БЕЛАРУСКАЯ ПРЫВАТНАЯ ШКОЛКА

Андрэй СКУРКО

У менскім паветры ўпарта лёталі чуткі, што адчыняецца першая ў нашай краіне прыватная школа. «Уласна пра школу яшчэ гаварыць рана», — расчараваў нас Алег Трусаў, старшыня Таварыства Беларускай Мовы. Першапачаткова гэта будзе мець выгляд нядзельнае клясы, якую дзеці змогуць наведваць паралельна з заняткамі ў агульнаадукацыйнай школе.

Ініцыятыва стварэньня новай навучальнае ўстановы зыходзіць ад групы прадпрымальнікаў, якія жадаюць, каб іх дзеці атрымалі сапраўды беларускамоўную адукацыю (увогуле, трэба адзначыць, што сёньняшняе кіраўніцтва ТБМ больш актыўна, чым ранейшае, супрацоўнічае зь бізнэсмэнамі), маючы на мэце стварэньне беларускае нацыянальнае буржуазіі, безь якой, як сьцьвярджае сп.Трусаў, «Беларусь ніколі ня будзе незалежнай». Тыя ж бізнэсоўцы бяруць на сябе фінансавае забесьпячэньне праекту (аклад настаўніка будзе дзесьці ў два разы перавышаць сярэднестатыстычны). З памяшканьнем таксама праблемаў няма — заняткі можна праводзіць у залі штаб-кватэры ТБМ (дзе, дарэчы, у 1997—1998 г. месьцілася рэдакцыя «Нашай Нівы»). Алег Трусаў ускладае вялікія надзеі на гэтую маленькую клясу (да 12 вучняў) і зьбіраецца выхоўваць тут сапраўных патрыётаў. ПляНуецца, што дзеці будуць хадзіць на экскурсіі, у музэі, тэатры. З кадрамі, якія б не пераходзілі зь беларускае на ніжагародзкую, праблемаў няма — ТБМ можа даць ня толькі сярэднюю, але і ўнівэрсытэцкую адукацыю (чаму і змагаецца за Нацыянальны ўнівэрсытэт).

Настрой у заснавальнікаў — вельмі аптымістычны. Рана ці позна кляса перарасьце ў паўнавартасную прыватную школу, пасьля — у цэлую сыстэму прыватных школаў, якія будуць ствараць канкурэнцыю школам дзяржаўным і, тым самым, падтрымліваць якасьць выкладаньня ў іх на належным узроўні.

# БЕЛАРУСКАЕ ПАЛОМНІЦТВА Ў КАНАДЗЕ

19 чэрвеня, у суботу, адбылося 11-е з чаргі паломніцтва да Беларускага памятнага комплексу, што ў прошчы паўночнаамэрыканскіх пакутнікаў у Мідлляндзе, у Канадзе. Беларускі памятны комплекс складаецца з пабудаванага ў 1988 годзе для адзначаньня тысячагодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі Беларускага памятнага Крыжа і Помніка Ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі, узьнесенага й асьвечанага ў часе 8-га Паломніцтва да Беларускага памятнага Крыжа 1-га чэрвеня 1966 году. Ад часу ўзьнясеньня ў прошчы Беларускага памятнага Крыжа кожны год адбываюцца да яго паломніцтвы.

У прыветлівым цені дрэў пад няўпынны гоман-крык кагарак ураз зьявіўся даўгі рад сталоў, а на покрывах іх — Богам дадзеныя даброты-стравы. І «елі смачна й багата, на тое-ж даў Бог людзям сьвята».

Раіса Жук-Грышкевіч

# СЛОВА АЙЦА АНДРЭЯ

***на нядзелю сёмую мучаніка Аўхіміі і сьвятой княгіні Вольгі***

*...Ён навучаў іх, як той, хто мае ўладу...*
*(Мц. 7. 29а.)*

У Эвангельлі паводле Мацьвея ў восьмым разьдзеле апісана, як Ісус аздаравіў двух беснаватых у краіне Гергезінскай. Марк і Лука пішуць толькі пра аднаго чалавека, які пасьля аздараўленьня захацеў стаць вучням Ісуса.

Краіна Гергезінская, альбо Гадаранская, знаходзілася з паўднёва-усходняга боку возера. Была часткай Дзесяцігародзьдзя, у эвангельскія часы жыхары гэтай краіны пераважна былі грэкамі.

Тут трэба спыніцца на двух момантах гэтага выпадку. У першым трэба зьвярнуцца да ўсіх хрысьціянаў. Бесы, служкі д'ябла, у 29 вершы называюць Хрыста «Ісус, Сын Божы», яны вызнаюць тое, што Ісус ёсьць Богам і мае ўсялякую ўладу таксама і над імі. Зараз пытаньне: чым жа мы, хрысьціяне, адрозьніваемся ад бесаў?

Чаму пра нас апостал Ян кажа, што мы дасталі ласку звацца Дзецьмі Божымі? У Марка і Лукі чалавек, якога аздаравіў Ісус, просіць застацца з Ісусам, быць ягоным вучнем. Ці кожны з нас зразумеў тую патрэбу быць вучням Хрыста? Ці хрысьціянін вызначаецца толькі тым, што ходзіць у царкву, называе Ісуса Богам, ці тым, што жыве на штодзень навукай і Словам Хрыстовым?

У 34 вершы чытаем: «І вось увесь горад выйшаў насустрач Ісусу; і ўбачыўшы Яго, прасілі, каб Ён адыйшоў ад іх».

Так часта бывае ў жыцьці. Людзі чакаюць збаўленьня, чакаюць аздараўленьня і цуду, але калі прыходзіць цуд, яны разумеюць, што лепей чакаць на яго, чым прыняць. Беларускі народ таксама выбірае ня праўду, ня цуд, але таго, хто толькі абяцае цуд. Не прымае адказнасьці, а проста цешыцца пустымі надзеямі, што ўсё будзе добра, лягчэй.



# ТРЫ НОВЫЯ ПОМНІКІ

***У горадзе амаль адначасова зьявіліся тры помнікі. Загадкавы, анэкдатычны й трагічны.***

## Помнік самому сабе

Неяк апоўначы, калі я праходзіў вуліцай Ленінградзкай, маю ўвагу прыцягнула пара мужыкоў, што стаялі насупраць былой жандармэрыі. Адзін жаласьліва нешта даводзіў другому. Да маіх вушэй даляцела: «Братан, я тожа вараваў». Але спыніцца на пачцівай адлегласьці мяне прымусіў той, што на «тожа». Рост гэтага калоса, які, прыгнуўшыся, слухаў свайго суразмоўцу, быў крыху большы за два мэтры. Я асьцярожненька збочыў на іншую вуліцу.

Наступнаю раніцаю я ўбачыў загадкавага Гулівэра зноў. Гэта была ўсяго толькі бронзавая статуя. Цікаўная публіка абкружыла яе шчыльным колам. Дыскусія разгарэлася на тэму — каму і дзеля чаго паставілі помнік. Гіпотэзы юбілейнага Пушкіна разьбіліся аб джынсавы прыкід і адсутнасьць бакенбардаў. Нехта выказаўся за варыянт «Рабочага чалавека з працягнутай рукой» — фігура стаяла на каналізацыйным люку. Нарэшце, адзін разумнік прыкурыў папяросу ды ўставіў яе паміж бронзавых пальцаў. Такі творчы падыход публіцы спадабаўся. У дзясьніцу пачалі ўстаўляць купюры, абрыўкі газэтаў ды сарваныя кветкі. А я ўсё ніяк ня мог узгадаць — дзе я ўжо бачыў гэты нахабны й вясёлы твар? Адна мая знаёмая кінэматаграфістка паведала гісторыю прататыпа.

Жыў у Менску чалавек зь цёмным мінулым і сьветлаю марою пра вечную славу. Адзіная ў горадзе апошняя мадэль «Фэрары» ды Міс Менск у якасьці жонкі маглі прынесьці часовую радасьць, але ня славу. І чалавек рашыўся на экстрэмальны крок — у гэтай краіне на свае грошы зьняць кіно паводле свайго сцэнару ды з сабою ў галоўнай ролі. І, што самае неверагоднае, зьняў і нават, кажуць, нешта зарабіў. Скульптура кінагероя, выкананая Уладзімерам Жбанавым (аўтарам даўганогай «мянчанкі» зь Міхайлаўскага скверу), павінна была ўпрыгожыць адну з прысадаў ля кінастудыі «Беларусьфільм». Шукальнік славы, а звалі яго Ўладзімер Галынскі, загінуў гэтаксама загадкава, як і жыў. Ягонае цела знайшлі на трэція суткі пасьля сьмерці — ад перабору наркотыкаў. Ён якраз зьбіраўся везьці сваю карціну па лягерах і турмах краіны са шляхетнай мэтаю бясплатнага паказу. Так ці інакш, а галоўнага чалавек дамогся. Лета пяройдзе ў восень, а восень у зіму. Зьменяцца рэжымы й моды. А бронзавы чалавек зь вясёлым тварам у кепцы набакір будзе нязьменна стаяць на вуліцы. Палохаючы начных мінакоў, а дзённых — жэстам запрашаючы да размовы. І ахвотных паразмаўляць зь ім не паменее ніколі.

## Тут быў Пушкін

— А вось, Леанід Ільліч, наш новы помнік Пушкіну Александру Сяргеевічу.

— А, знаю-знаю. Гэта той, які «Му-му» напісаў.

— Ох і жартаўнік Вы, Леанід Ільліч. «Му-му» ж Тургенеў напісаў.

— Г-мм. Тады якога хрэна помнік Пушкіну паставілі?

Я згадаў гэты сівы анэкдот ля новага помніка расейскаму клясыку, што, як пішуць цэнтральныя газэты, «прысеў адпачыць на маляўнічым беразе Сьвіслачы». Хоць, на мой погляд, Пушкін прысеў адпачыць ля гатэлю «Беларусь». Мастак Юры Арэхаў намагаўся выявіць хвіліну паэтавага натхненьня. Атрымалася забаўна. Зачаравана пазіраючы на новую арэну Палацу спорту, чалавек у старадаўнім сурдуце застыў у такой позе, што міжволі ўзьнікала жаданьне дапамагчы яму ўладкавацца ямчэй. Пацешыла і публіка, што сабралася вакол Пушкіна. Збольшага дзядулі й бабулі, якім вельмі пасуе азначэньне «русский интеллигент в первом поколении». У адной бабулі, што задумена пазірала на скульптуру, я асьцярожна запытаўся, ці падабаецца ёй гэты помнік. У адказ спадарыня ўсхвалявана сказала: «А помните вот это?.. Зима. Крестьянин торжествуя...» Ну, не перабіваць жа было яе цудоўнае імгненьне іншаю цытатай. А помніце: «... мы получим Варшавскую губернию, что следовало осуществить уже 33 года тому назад. Из всех поляков меня интересует один Мицкевич». Альбо гэта: «Для нас мятеж Польши есть дело семейственное, старинная, наследственная распря...» Выратаваў мяне нейкі жвавы дзядок, падобны на футбольнага трэнэра ў адстаўцы. Ён выскачыў да падножжа й зычным голасам са стараньнем тэатральнага абітурыента задэклямаваў: «Война! Подняты наконец, Шумят знамёна бранной чести!» Пасьля чаго прачытаў кароткую лекцыю на тэму адвечнага адзінства народаў, якое сымбалізуе Пушкін. Бронзавы госьць па-ранейшаму зацята вывучаў хакейную пляцоўку. Пасьля дзядка адцясьніла вясельная працэсія. «На фоне Пушкина снималося семейство». Я ў гэтым нічога кепскага не знаходжу. Як і ў тым, што калі-нікалі «русские интеллигенты» зьбяруцца між казіно й «Мосбізнэсбанкам», каб пачытаць адзін аднаму любімыя зь дзяцінства радкі свайго паэта. Урэшце, іх застаецца ня так і многа. І калі гадоў праз дзьвесьце нейкі хлопчык запытае ў маці: «Хто гэты дзядзька на ўслончыку?» — я не зьдзіўлюся адказу матулі. «Гэта, сынок, паэт Пушкін. Здаецца, ён жыў у гэтым гатэлі пару стагодзьдзяў таму»...

## Кветкі на памяць

Апошнюю нядзелю вясны я пачаў з чытаньня гараскопу ў бясплатнай газэце «Ва-Банкъ». На 30 траўня прагноз быў наступны: «Магчымыя значныя й нават разбуральныя пераўтварэньні ў жыцьці, якіх цяжка пазьбегнуць, бо яны лёсавызначальныя. Трэба захоўваць асьцярожнасьць у месцах скапленьня людзей...» Нядзеля выдалася сьпякотнай, таму запрашэньне ад прыяцеля правесьці дзянёк у Лошыцкім парку, дзе адбудзецца турнір рыцарскіх клюбаў, я прыняў з радасьцю. Масавага скапленьня ў Лошыцы не назіралася. Белмоўныя сямейныя пары зь дзецьмі ды жыхары ваколіцаў прыйшлі паглядзець на рэдкае відовішча. На тле белай сядзібы чатыры прыгажуні ў шляхецкіх строях гарцавалі на прыгожых скакунах. Некалькі дзясяткаў маладых людзей у самаробных рыцарскіх дасьпехах з суворымі тварамі рыхтаваліся да бойкі. На тле гэтай маскараднай мешаніны з джынсы, кальчуг і крыжовых плашчоў нацыянальны сьцяг над шатром глядзеўся вельмі сур'ёзна. Сам турнір выйшаў даволі камічны. Асабліва запомніўся момант, калі з аднаго рыцара ад удару зьляцеў шалом, і той, схапіўшыся за вуха, пабег зь месца бітвы. «Куды ж ты, доблесны рыцар?» — пад сьмех публікі крычаў апрануты ў чорнае цырымоніймайстар. Я злавіў сябе на думцы, як лёгка разважаць на тэмы жыцьця й сьмерці, назіраючы за бяскроўнымі двубоямі. Але галоўным адбіткам дня стаў не турнір у Лошыцы.

Увечары, прабіраючыся праз мамалады натоўп ля «Макдональдзу» ў цэнтры гораду, я заўважыў адну пару. Настолькі арганічную, што ня здолеў адмовіць сабе ў задавальненьні палюбавацца. Ён — высокі даўгавалосы бляндын з тварам тэўтонскага магістра, у падкаваных ботах і скуранай куртцы мэталіста, што зьзяла кальчугаю шматлікіх заклёпак. Яна — незвычайна крохкая панна ў лёгкай, даўгой сукенцы, з вачыма, поўнымі захапленьня сваім рыцарам. На рагу рыцар набыў сваёй паненцы шыкоўную, доўгую ружу. Нават цень зайздрасьці не крануў мае душы, калі я праводзіў іх поглядам. Абняўшыся, яны йшлі ў бок станцыі мэтро «Няміга». Было пад восьмую.

Назаўтра я даведаўся, што гараскопам верыць варта і што аддаць жыцьцё ў росквіце жаданьняў можна і не на полі бою, і не ў імя вялікай мэты, нават ня ў рукі забойцы. Тады дзеля чаго?.. Яшчэ доўга менчукі будуць скаланацца пры словах «наступная станцыя «Няміга». Яшчэ доўга ў пераходзе будзе панаваць ціша, а мы — задавацца бессэнсоўным пытаньнем, ці магчыма было гэта абмінуць. Бог вярнуў Нямізе яе спракаветны трагічны сэнс. Кажуць, што гэты помнік часовы. Ня думаю. Каваныя кветкі ня вянуць. У адрозьненьне ад чалавечай памяці.

Зьміцер БАРТОСІК




*Помнік А.Пушкіну ў Менску.*



# Уляна Захаранка: КАБ МНЕ ЯГО ХОЦЬ ЗДАЛІ ЎБАЧЫЦЬ!

*Два месяцы таму інтэрвію з Юр'ем Захаранкам так і не зьявілася на старонках «Нашай Нівы». Ён хацеў распавесьці нешта, што, відаць, лічыў вельмі важным. Дамовіліся аб сустрэчы. Я была прыемна зьдзіўленая ягонай добрай беларускай мовай — раней яе ад экс-міністра ня чула. «Што гэта вы зьдзіўляецеся? — нібы прачытаў мае думкі спадар Юры. — Па-вашаму, я не такі ж беларус?»*

*Выслухаўшы пытаньні, Захаранка тут жа пачаў распавядаць. Я шчоўкнула дыктафонам. Падумала, нарэшце чытач даведаецца ня толькі пра Захаранку-міністра, крымінальніста і дзеяча апазыцыі... «Не!» — раптам абарваў ён інтэрвію. Гэта было зусім дзіўна для яго, які заўсёды выконваў абяцаньні. «Вось што: давайце перанясем, пагутарым праз пару дзён», — папрасіў ён. Чаму? Невядома. Калі праз пару дзён рэдактар «НН» патэлефанаваў мне, каб нагадаць пра абяцанае інтэрвію, Захаранка ўжо зьнік. Мы спачатку падумалі, што ён проста пайшоў у падпольле. «Ну, калі раптам сустрэнеце на вуліцы, дык усё ж задайце яму пару нійскіх пытаньняў», — пажартаваў рэдактар.*

*Мінула больш за два месяцы. Цяпер ня так важна, ці адкажа ўрэшце Юры Захаранка на пытаньні «НН». Калі вернецца, дык і адкажа.*

*Маці чалавека, які мог бы стаць рэальным канкурэнтам прэзыдэнта Лукашэнкі, жыве ў мястэчку Васілевічы ля Рэчыцы. «Я ўжо не вытрымліваю гэтага перажываньня», — кажа яна і амаль усю размову плача. — «Як мне перанесьці гэтае гора?!»*

**«НН»: Ці адчувалі Вы там, у сябе, нейкі ўціск пасьля адстаўкі Вашага сына? Ці нешта зьмянілася за апошнія два месяцы?**

Уляна Захаранка: Усё тут ціха, спакойна, мяне ніхто не трывожыў... Можа, людзі дзе штö й казалі, але ўсе так жа, як раней, да нас адносяцца. Юра рос харошым, добрым, у трудных умовах. Бацька быў хворы. Як толькі канікулы прыходылы — ён у калгас працаваць, дапамагаць... Ён быў такі адданы бацькам, дому, што ўсе люды завідавалы. А потым мне так не пашанцавала. Сын старшы памёр, а тэпер і Юра зьнік... Яго брат рабіў падводнікам на атамнай падводнай лодцы. Ён казаў мне: «Мама, я недаўгавечны. Тут доўга не вытрымліваюць». Пасьля яго сьмерці ў лютым у тым годзе я ледзь не дайшла... Юра мяне вельмі падтрымліваў. А тут яшчэ такое гора. Я асталася адна... У бальніцы ўсё жыццё прапрацавала, 16 год прарабіла звыш пэнсіі.

Можна прыехаць к нам, пабачыць, у нас няма таго, што яны там гаворацъ. Ён нічога ня краў, я яму сама ўсё жыццё памагала. А яго зьнялы, у вараженчу ўтапталы. Юра з малых год быў шчырым і чэсным, ня піў, не курыў. Ён многа чытаў! Ва ўсіх характарыстыках у школе адмячалі гэта, пісалі: **«Вельмі разьвіты гуманітарна».** Настаўнікі мне казалы: «Адзін у нас у школе такі хлопец! Такі акураціст, у каго ўдаўся — у тату ці ў маму?» А як служыў у марфлоце, усё ішлі благадарнасьці з Кранштату! «Спасібо, дарагая мамаша, што выхавалы сына такога добрага...»

Ня знаю, што дальш рабіць. Як сказалы, што ён прапаў, два тыдні дэржалы мяне на ўколах... Усе завідавалы раней: такія два сыны! Бацька наш ужо 20 год як памёр, а тут бяда і з сынамі. Яны так мяне глядзелы, прыяжджалы памагалы ўсё: і прыбяруць, і пасеюць, дроў нарубаюць... Вельмі любылы свой двор. Цяпер адна сяджу, дэнь і ноч, і плачу. І ня сплю. Хіба ноччу на пяць хвілін засну — і тое самае. Хаця знаць, што Юры жывы — мне было б лягчэй... Мярэшчыцца, бывае, што нежывы. Што мёртвы.

**«НН»: Уляна Рыгораўна, перад зьнікненьнем ваш сын даволі шмат часу, як мне казалі, праводзіў у бацькоўскім доме. Штосьці яго асабліва туды цягнула?**

У.З.: 5-га мая ён паехаў у Мінск. Перад тым мне казаў: «Мама, не беспакойся, я пабуду на мітынгу на Дэнь Пабеды і вярнуся дадому. Усё зробім». Агарод трэ було сеяць, дровы секчы... І тут мне кажуць, што Юру пахітылы!..

Я ўсё роўна стараюся, усё загатоўляю, штоб сям'і было што есьці. У вёсцы ж усё ёсьць. Бывае, даю вясковыя прыпасы — бульбу, бурачкі ды ўсё сваё, — а Юра кажа: «Калёса ў машыны прагнуцца!» Можа, нехта глядзеў ды казаў: «Во, накраў і вязе...» Мае дзеці — не бандыты! Работнікі абодва, любілі свой двор, памагалы ўсе адзін адному.

**«НН»: Ці заўважалі Вы пад час прыездаў сына нейкія трывожныя знакі? Пагрозы ці людзей якіх нядобрых?**

У.З.: Нічога не було. Калі Юра буў дома, ён тут нікуды не хадзіў, ня езьдзіў, буў спакойны, нічога не расказваў. Ён казаў мне: «Як сюды прыеду, то як на сьвет нараджуся. Дома мне спакойна, добра». Казаў: «Я такі рады, мама, што ты тут ёсьць! Ня знаю, як я буду жыць на сьвеце, калі цябе перажыву».

**«НН»: Вы калі-небудзь сварыліся на сына?**

У.З.: Я ніколы на іх абодвух не сварылася, ня лаяла іх. Бацька як жыў, ні плахога слова не гаварыў. І мае сыны ніколы паміж сабой не ругалыся. Мы з бацькам іхным усё жыццё побач у больніцы рабылы.

**«НН»: А чаму ўсё ж спадар Юры вырашыў у міліцыю пайсьці? Вы, калі ён вырашыў, не былі супраць?**

У.З.: Як ён выбраў, я тады яшчэ ня разбыралася добра, што гэта за прафэсія. Каб ведалы, што чакае такое гора, то ніколы мы б яго, ніколы б не дапустылы! Ён такі спасобны, а трапіў у гэту міліцыю.

Няўжо мой сын — такі злачынец, як яго там называлы? Вон і Чыгіра забралі, і іншых. Няхай паведамяць тады, што ён зрабіў благога, напішуць у газэтах, калі ён нешта нарабіў. А яго як у ваду кінулі! Не магу прадставіць, што далей рабіць. Не магу прадставіць, куды сына майго можна дзець. Мы б яму ежу, адзежу хоць перадалы. Я яго ўсё раўно жду, прыгатаўляюся. У нас клубнікі многа было, варэньне зварыла. Думаю: вернецца — каб не галадаў.

Усе яго ўважалы, так ласкава да яго адносылыся. Бо Юра ж такі: ні голасу ніколі не павысіць, не пакрыўдзіць чалавека. Вось усе пытаюцца, што я адчуваю, ці жывы. Ня ведаю, я ўжо не адчуваю. Але я думаю чамусьці, што ён дзесьці жывы. Каб засудылы, то далей Беларусі не завезлы б. А так дзе ён? Зара я адно хачу: штоб быў ён жывы. Штоб мне яго хоць здалі ўбачыць.

**Тацяна Сьнітко**

## ЗЬНІКНЕНЬНЕ КАНКУРЭНТАЎ

Алесь ГРЫНЕВІЧ

Юры Захаранка зьнік больш за два месяцы таму. За гэты час людзі патроху прызвычаіліся да факту, што вядомы ў краіне чалавек можа сысьці, не пакінуўшы сьлядоў. Самая аптымістычная вэрсія зьнікненьня — Захаранка хаваецца з уласнай волі. Але чаму тады так нясьпешна вядзе пошукі міліцыя? Чаму Лукашэнка ўпэўнена заявіў, што Захаранка трапіў пад «разборкі» крымінальнікаў?

Валеры Костка, сябра грамадзкай камісіі па пошуках Захаранкі, лічыць, што былы міністар жывы і недзе ўтрымліваецца спэцслужбамі. Але сказаць больш карэспандэнту «НН» сп.Костка не пажадаў, каб «не падставіць чалавека». Маўляў, журналісты любяць пашумець, і з-за шуму Захаранку могуць забіць. Не ўпершыню нам даводзіцца сутыкацца з думкай, што публічнасьць у адносінах з уладамі толькі зашкодзіць, і лепш прамаўчаць. Але на нашу думку, што цішыня — рыхтык тое, што ўладам патрэбна. Калі няма шуму, можна пакрысе забыцца на тое, што цябе непасрэдна ня тычыцца.

Нарэшце, самая змрочная вэрсія — Захаранка ўжо нежывы. Але нават тыя, хто ставіць у адзін шэраг з Захаранкам Майсеню, мала вераць ва ўласныя «страшылкі», бо «ў нас такога ня можа быць». Між тым, зьнікненьні палітычна няўгодных людзей — схема, добра спрактыкаваная ў 80-я гады дыктатурамі Лацінскай Амэрыкі. Калі яна было магчымая там учора, сёньня яна магчымая і ў нас.

Захаранка, як і Карпенка з Чыгіром — гэта чалавек, які мог (можа) зрабіцца супернікам Лукашэнкі ў гіпатэтычных выбарах. Пры ўсіх высокіх рэйтынгах ППРБ амаль такая ж колькасьць людзей увогуле не вызначае асобы, за якую яны маглі б прагаласаваць. Канкурэнтаў не паказваюць у тэлебачаньні і не даюць ім слова. А ўлады, ведаючы пра сілу сымбаляў, абыходзяцца з патэнцыйнымі «сьцягамі» апазыцыі, як калісьці Іван Цiцянкоў — зь бел-чырвона-белым палотнішчам.

# ЗАХОП ВЁСКІ МІКАЛАЕЎКІ

Вадзім БОЛБАС

Ужо на працягу тыдня на Сьветлагоршчыне гуляюць самыя неверагодныя чуткі пра захоп Мікалаеўкі ўзброенай моладзьдзю. Мы прапануем чытачам дзьве вэрсіі падзеяў у Мікалаеўцы і затым у Бабруйску 30 чэрвеня і 3 ліпеня гэтага году.

Вэрсія першая — расказ афіцэра Сьветлагорскага РАУС.

Расейскі бізнэсовец, родам зь вёскі Гамза Сьветлагорскага раёну, Анатоль Сілівончык прывёз на Сьветлагоршчыну 120 падлеткаў — выхаванцаў вайскова-патрыятычнага клюбу «Чорны Беркут» з Сургуту. Яны сталі лягерам у лесе паблізу вёскі Мікалаеўкі ў паляўнічым дамку, абнесьлі гэтае месца равом, усталявалі назіральныя вышкі.

Апэрацыя «Захоп» пачалася па ўзгадненьні з кіраўніцтвам калгасу. Адзін з тэхнічных кіраўнікоў калгасу сабраў у гэты час мужчынаў-мэханізатараў на нейкую нараду. Калі б мужчыны былі ў вёсцы, ды яшчэ нападпітку, дык захопнікам бы «не паздаровілася». I так пад час захопу адзін з мужчынаў аказаў рашучы і эфэктыўны супраціў. Хоць на яго напалі чацьвёра, ён паламаў аднаму з нападнікаў рэбры, астатніх раскідаў. Але разабраўшыся, што перад ім дзеці, «здаўся ў палон». Жанчына-бухгальтарка са страху страціла прытомнасьць. Старшыню калгасу «захопнікі» зьвязалі.

Пазьней, калі прыехала міліцыя, нехта з кіраўнікоў «Беркута» абклаў начальніка Сьветлагорскага РАУС мацюгом, сказаўшы: «Ты, палкоўнік, валі адсюль, а то заўтра будзеш стаяць навыцяжку перад Лукашэнкам».

Пасьля гэтага ўсе «беркутаўцы» перабраліся ў Бабруйск у вайсковую частку. 3-га ліпеня туды прыехаў палкоўнік ужо бабруйскай міліцыі з 12-цю амонаўцамі. Яму таксама прапанавалі ня ўмешвацца, бо нібыта адзін з вэтэранаў-выхавацеляў «Беркута» зьяўляецца кіраўніком вельмі ўплывовай арганізацыі, а Лукашэнка ходзіць у яго ў намесьніках.

Пасьля гэтага й пачалася сутычка, у выніку якой 12 бабруйскіх амонаўцаў паклалі на зямлю 120 падлеткаў і вэтэранаў з Сургуту. Праз нейкі час затрыманых адпусьцілі, а Анатоля Сілівончыка адвезьлі ў сьледчы ізалятар Сьветлагорску, дзе ён знаходзіцца да гэтага часу.

Вэрсія другая — яе распавёў мне чалавек, які асабіста знаёмы з А.Сілівончыкам і сустракаўся зь ім ужо ў час знаходжаньня групы «Беркут» на Сьветлагоршчыне.

Анатоль Сілівончык — пасьпяховы прадпрымальнік, жыве і працуе ў Сургуце. На яго сродкі ўтрымліваецца школа выжываньня, у складзе якой і дзейнічае клюб «Беркут». Выхаванцы клюбу жылі ваенізаваным лягерам, трэніраваліся, капалі акопы, выстаўлялі варту і г.д. Уладам аб гэтым было вядома. У Мікалаеўцы па незразумелых прычынах зьявіліся прадстаўнікі грамадзянскай абароны. Пасьля гэтага і адбылося тое, што адбылося. Чалавек, які расказаў мне ўсё гэта, характарызуе ўсё як «правакацыю міліцыі, прычым не сьветлагорскай, а менскай».

Гэта прыводзіць да наступных думак: умяшальніцтва прадстаўнікоў «грамадзянскай абароны» магло стаць той прычынай, з-за якой, як піша А.Грузьдзіловіч у «Навінах», у дамоўленасьці А.Сілівончыка зь мясцовымі ўладамі «нешта не спрацавала».

Сапраўды, цяжка паверыць, што чалавек, які набыў для аднавяскоўцаў мікрааўтобус і траціць на яго эксплюатацыю паўтысячы даляраў у месяц, укладае 40 тысячаў даляраў у арганізацыю лягеру і паходу па Беларусі 120 падлеткаў, які ўклаў столькі грошай у аднаўленьне крыжа Эўфрасіньні Полацкай, дазволіў бы такія зьдзекі сваіх выхаванцаў над землякамі. Ці не падбухторылі «групу захопу» да такіх жорсткіх дзеяньняў у Мікалаеўцы якраз прадстаўнікі ГА ці тыя, хто сябе за такіх выдавалі?



А.Сілівончык зь мітрапалітам Філарэтам. Фота з асабістага архіву Ўл.Арлова.

Магчыма, ва ўладаў былі свае рахункі зь Сілівончыкам. Людзі, якія ведаюць А.Сілівончыка, схіляюцца якраз да такой вэрсіі.

*Сьветлагорск*

## дзе варта быць



### ФАЎСТ

20 ліпеня, усім, хто ня пойдзе на палітычныя гуляньні, можна пайсьці ў Опэру. Упершыню пасьля перапынку ў 120 гадоў будуць даваць «Фаўста». Музыка Антонія Радзівіла. Лібрэта Ёгана Вольфґанга Гётэ. Пераклад на беларускую мову Васіля Сёмухі. Пастаноўка Віктара Скарабагатава. Вечны сюжэт Гётэ містычна падкрэсьліваецца датаю прэм'еры. Пачатак а 19-й. Цана білетаў — ад 30 (!) да 300 тысячаў руб. ■



### ВАНДРОЎКА Ў ЧЭХІЮ

Фонд разьвіцьця традыцыйнай культуры пры канцы ліпеня ладзіць чарговы эксклюзіўны тур «Па сьлядах адной ліцьвінскай дружыны». У праграме вандроўкі — наведваньне Прагі ды Кракава, легендарных чэскіх замкаў і збраёўняў. Галоўная мэта паходу — рэканструкцыя бітвы каля замку Млазавіцэ, захопленага гусіцкім войскам Яна Жыжкі ў 1424 годзе. У грандыёзным прадстаўленьні зь няцацачнымі мячамі ў руках зьбіраюцца ўзяць удзел каля трох соцень рыцараў ледзь не з усёй Эўропы. Калі ў спадарства ёсьць жаданьне далучыцца да сучасных Філонаў Кмітаў, тэлефануйце: 232-00-08. Час яшчэ ёсьць. Перамога нам гарантавана гісторыяй. ■

# БАГАТЫР І ХАЛЕРЫК

*Працяг са старонкі 1.*

Я думаю, Анатоль зразумеў, што для гэтых людзей у чорнай форме Беларусь — проста палігон для гульняў і забаваў. Тут любому бачна, што сам Сілівончык ня мог удзельнічаць у зьдзеках над сваімі суседзямі. Наколькі мне вядома, проста сытуацыя выйшла з-пад ягонага кантролю, і вялі рэй там расейскія башыбузукі, якія прайшлі вайну ў Аўганістане ці ў Чачэніі. Дзіўна, што людзей, якія непапраўна зьдзяйснялі гэтую «баявую апэрацыю», проста беспакарана дэпартавалі ў Расею, а Сілівончыка зрабілі «крайнім». Магчыма, тут адыграў ролю ягоны характар, бо Анатоль мог рэзка размаўляць з прадстаўнікамі ўладаў.

Натуральна, Анатоль выбраў ня лепшы спосаб укладаньня грошай, і напэўна ён сам у гэтым пераканаўся. Я ўсё ж спадзяюся, што ён хутка выйдзе на свабоду і зробіць яшчэ нямала карысных справаў для Беларусі. Бо я ня ведаю, каго ў апошнія гады можна было б паставіць побач з Анатолем па значнасьці фінансавых укладаньняў у беларускія культурніцкія праекты. Сёньня ў нас больш такіх мэцэнатаў няма».

**Гутарыў Аляксей Знаткевіч**

Вадзім КАРЦАЎ

# ПАЛІТЫКА, ГАРЭЛКА, ПІВА

У палітыцы й журналістыцы існуе багата тэмаў, якія дастаткова толькі закрануць, каб выклікаць рэзананс у аўдыторыі.

Напрыклад, завядзіце ў поўным аўтобусе гаворку пра бяздомных ці, як кажуць, бамжоў. Хвілін праз колькі ці ня ўсе пасажыры выкажуць сваё стаўленьне да гэтых няшчасных. Хтосьці будзе спачуваць цяжкому лёсу ды апраўдваць іх, хтосьці — асуджаць і называць лайдакамі. Прычым, ці першых, ці другіх будзе абавязкова болей. I вы, счакаўшы й правільна адчуўшы кан'юнктуру настрою, можаце адным трапным сказам зрабіць сябе папулярным сярод большасьці ў гэтым аўтобусным салёне.

Такім чынам, уменьне абазначыць праблему, стварыць вакол яе рэзананс ды сабраць у гэтай гульні балы — гэта тэхніка папулярызацыі. Пры гэтым чым прасьцейшае пытаньне, тым лягчэйшы выйгрыш.

Папулярнымі імкнуцца быць палітыкі на ўсім сьвеце. Тэхналёгіі «раскруткі» вельмі простыя па сутнасьці і ў залежнасьці ад наяўнасьці грошай у заказчыка адрозьніваюцца толькі маштабам ужываньня: дом, выбарчая акруга, горад, краіна.



Прынцып усё той жа: стаў пытаньне і, счакаўшы, адказвай на яго.

Сацыяльныя праблемы, на якіх традыцыйна будуюць свае кампаніі й кандыдаты ў гарадзкія рады й кандыдаты ў прэзыдэнты — вядомыя. Ці ня поўны іхны пералік можна скласьці, падняўшы падшыўку тэлевізійнай праграмы за год-два і глянуўшы тэмы якіх-небудзь ток-шоў.

Адна з гэткіх тэмаў-праблемаў — алькагалізм.

Спыніце на вуліцы мінака ды спытайцеся наўскідку: якое ліха з найгоршых пануе сярод нашага люду? З чым трэба змагацца палітыку на шляху да ўлады? Думаецца, што пераважаць адказы менавіта пра алькагалізм.

Дзеці веку 14—16 гадоў, з прыстойных нават сем'яў, ці не пагалоўна каштавалі гарэлку, а нехта й пасьпеў добра напрывыкнуць.

Палову хлапцоў, што прайшлі войска ці інстытуты, можна сьмела ставіць на ўлік да нарколяга. Не адстаў ад іх і жаночы пол.

Дні народзінаў, вясельлі, хрысьціны, улазіны, хрысьціянскія й сьвецкія сьвяты, проста ўікэнды праходзяць цяпер паводле аднаго жахлівага сцэнару — упіцца ды імправізаваць у рамках стандартнага набору дзеяў: разборкі з пабітымі насамі (а то й з панажоўкаю); жывёльнае спароўваньне па кутах; хуліганскія рэйды па вуліцах; бязглуздыя размовы «за жысьць» з плёткамі, скаргамі на «свайго» ці «сваю», на цешчу, начальніка, з наракальнямі на лёс.

Назаўтра — «адхадняк» ды абмяркоўваньне: хто званітаваў, а хто «малайцом».

Усе ведаюць, што алькаголь псуе гены, але ўсе п'юць. Ідыётаў стала гэтак багата, што іх можна бачыць паўсюль: нат на вяршыні ўладнага дрэва.

Нашая пэрспэктыва, калі не спыніцца, — стаць краінаю дурняў без двукосься.

Але ж во нешта не чутно, каб хаця хто гучна ўзьняў тую праблему.

Прычынаў маўчаньня можа быць тры.

Першая — няўдалы прыклад Гарбачова. Той не разумеў, што алькаголь — гэта кроў савецкай эканомікі і выступіў супраць яго татальна: ад масавай агітацыі і ня меней масавых звальненьняў з працы бедных п'янчукоў да закрыцьця піўзаводу ў Барысаве.

Другая прычына ў тым, што нашыя палітыкі, па вялікім рахунку, уласнай папулярызацыяй і не займаюцца, з пагардай і ганарлівасьцю адкідваючы гэтую працу «папулістам». А самі тым часам думаюць, як спыніць акупацыю, адрадзіць нацыю... Думаецца, яшчэ якіх гадоў 50, і можна будзе не хвалявацца за нацыю: «Пі, і д'ябал цябе давядзе да канца!»

I трэцяя прычына, баюся што праўдзівая, у тым, што большасьць нашых лідэраў — самі ледзь прыхаваныя алькаголікі і, натуральна, ня могуць шчыра выступаць супраць таго, на што слабыя. Прынамсі, у БНФ я прыгадваю толькі трох дзеячоў, якія ня п'юць: Пазьняк, Вячорка й Севярынец. Дык вось яны й кіруюць Фронтам: чым ня прыклад зваротнай залежнасьці кар'ернага росту ад колькасьці ўжытага сьпірытусу?

Барацьба з алькагалізмам — вось беларускі палітычны Кландайк.

Палітыкам тут нават ня трэба ўглядацца ў корань зьявы й разважаць пра глябальныя дывэрсіі супраць народу, можна элемэнтарна абурыцца нізкім коштам «вогненнай вады». На дурніцу й соль салодкая. Калі кошт бутэлькі пойла роўны кошту шакалядкі, падлетак выкладзе свае кішэнныя грошы на пойла, бо шакалядкі яго ўжо не «бяруць».

Алькагольныя напоі, асабліва моцныя, мусілі б каштаваць дорага: ня меней як сярэдні па краіне дзённы заробак за бутэльку, а ў нас трывожнай навіной на першых палосах свабоднай прэсы ідзе інфармацыя пра ўздаражэньне гарэлкі з 50 да 55 цэнтаў.

А каб не заквітнелі самагоншчыкі, калі купіць гарэлку камусьці будзе не па кішэні, культ 40-градуснай трэба — ужо што ў Беларусі лягчэй? — замяніць культам піва, напою здаровых людзей, спрадвечна беларускага пітва.

Ад піва яшчэ ніхто не памёр. Стагодзьдзямі цэлыя народы на ўсім сьвеце ўжываюць піва ў вялікіх колькасьцях і не дэградуюць, што сьведчыць пра бясьпеку й несумненную перавагу гэтага напою перад вынаходніцтвам вялікага расейскага вучонага-хіміка.

Прапаганда піва — залатая жыла ў справе здабыцьця народнай папулярнасьці. ■

Андрэй ДЫНЬКО

## Чачэнія

Па ўсім відаць, што Расея рыхтуе новую вайну ў Чачэніі бліжэй пад новыя выбары. Той раз забілі Дудаева, дык Ельцына перавыбралі. Яны кажуць, быццам чачэнцы нападаюць на расейскія войскі. Дзіўна толькі, як гэтыя чачэнскія напады расейцам удаецца фільмаваць, што яны іх паказваюць па тэлевізары. Расейскі міністар Рушайла, крэатура Беразоўскага, загадаў наносіць папераджальныя ўдары па Чачэніі. Сьцяпашын хоча даказаць Расеі, які ён цьвёрды й жорсткі.

## Іран

У Іране зь пятніцы студэнты сталі пратэставаць супраць закрыцьця аятaлой, то бо шыіцкім патрыярхам, газэты, якая выступала за дэмакратызацыю. Тады паліцыя нацкавала на студэнтаў мусульманскіх экстрэмістаў — прыкладна як наша РНЕ. Тыя напалі на інтэрнат, паліцыя ім пасабляла. Трое студэнтаў загінула, іншых яшчэ аб'явілі вінаватымі і пасадзілі. Студэнты аднак не паддаліся і вымагаюць адстаўкі паліцэйскага міністра. Міністар вышэйшай адукацыі і рэктар іх падтрымалі і пайшлі ў адстаўку ў знак салідарнасьці. Ня першы раз за праўду ліецца студэнцкая кроў — калі рай ёсьць, Бог бярэ туды маладымі. Асьвечаны прэзыдэнт Ірану Хатамі душою за студэнтаў, аднак ён ня ўсё можа зрабіць, прынамсі адразу. Можна сабе ўявіць пачуцьці гэтага пабожнага чалавека, у краі якога хлопцы гінуць за тое, што й ён лічыць правільным, а ён ня можа адкрыта выступіць, а мусіць маўчаць ды адваёўваць уплыў на дзяржаву крок за крокам. Дарэчы, некаторыя лічаць, што слова «рахманы» паходзіць ад арабскага «рахман» — літасьцівы, міласэрны. Цяпер Хатамі запатрабаваў звальненьня паліцэйскага камандзіра, з-за якога пралілася кроў. Дзела ў тым, што ў Іране адных міністраў прызначае Хатамі й парлямэнт, а другіх — аятала Хамэнэі. Іранскія бізнэсоўцы ўсе цьвёрда стаяць на баку Хатамі.

## Конга

У сталіцы Замбіі Лусацы ў суботу сабралася сустрэча кіраўнікоў Паўднёвай Афрыкі. Яны хочуць дабіцца міру ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга, былым Заіры. У Конга-Кіншасе, як яго яшчэ называюць ад назвы сталіцы, правіць Лёран Кабіла. Паўстанцы Кабілы скінулі непатапляльнага генэрала Мабуту, калі той захварэў на рак. Цікава, што апошнім прэм'ерміністрам у Мабуту быў сын паляка і тутэйшай жанчыны — такіх мулатаў у Афрыцы жыве нямала, бо, калі ня гідзіцца афрыканскага бязладзьдзя, адукаваны эўрапеец можа там добра зарабіць. Мабуту Сэсэ Сэко Кеке Нгбондэ Ва За Банга правіў Конга, які ён па сваёй прыхамаці перайменаваў у Заір, з дапамогай змысьлёнай дзяржаўнай сыстэмы 25 год; сярод іншага быў узаконены хабар, затое чыноўнікам не плацілі заробку, а ўсе прадпрыемствы нацыяналізавалі. Заір экспартуе медзь і кобальт (разам да 70 % экспарту), пальмавы алей (на другім у сьвеце месцы па ягонай вытворчасьці), каву, бавоўну, гевэю, гарбату. Краіна гэтая такая вялікая (у 11 разоў большая за Беларусь), што кіраваць ёю пры цяперашнім узроўні разьвіцьця з адной сталіцы зусім немагчыма. Калі яе што й лучыць, дык толькі рака Конга. Увесь усход краіны кантралююць працірніцы Кабілы. За гэтымі партызанамі стаяць улады маленькай Руанды, Руанда абапіраецца на свайго паўночнага суседа Ўганду, дзе пры ўладзе таксама стаяць прадстаўнікі плямёнаў тутсі, а Ўганду, як старану больш-менш культурную, падтрымлівае Амэрыка, стварaючы зь яе галоўную процівагу такой шалёнай краіне, як Судан. Ва Ўганду пхаюць зброю і інвэстыцыі, а яна за гэта ўсьпірае хрысьціянскую партызанку ў Судане. Фактычна, менавіта спрактыкаваныя і дысцыплінаваныя руандыйскія войскі прывялі да ўлады Кабілу (хоць Руанда ў 90 разоў меншая за Конга), але ён не схацеў скакаць па чужой дудцы і ўрэшце сілком высяліў з Кіншасы гэтых вяяк разам зь міністрам абароны, тутсі па нацыянальнасьці. Тады Руанда заняла ўсходнія гарады Конга і арганізавала супраць Кабілы мяцежнае войска, складзенае з маладых кангалезцаў, тутсі па нацыянальнасьці. Навошта ўсё гэта Руандзе патрэбна? Бо на ўсходзе Конга хаваюцца выгнаныя з Руанды бавевікі хуту, так званае войска «Інтэрагамвэ», якое свайго часу спрабавала зьнішчыць усю народнасьць тутсі, і Руанда хоча гарантаваць бясьпеку сваіх земляў. Гледзячы на Афрыку, Расею або Альбанію, думаеш, што можа праўду кажа Пазьняк — лепш Лукашэнка, чым безладзьдзе.

## «Love-Parade»

У Бэрліне ў ноч з суботы на нядзелю прайшоў «Love-Parade». Гэта найбольшы з фэстываляў тэхна. Летась у Тэль-Авіве і на «Стрыт-парадзе» ў Цюрыху было па 80 000 чалавек, а ў Парыжы на «Тэхна-парадзе» — 200 000. Увесь гэты тэхнаідальны разгул паказвалі на ўсіх каналах — музыка цяпер, як у старадаўніх народаў, ачышчае (ці можна яе назваць рытуальнай?). Каханьне стала тым, чым у сярэднявечным грамадзтве быў Бог — «бяз Бога ні да парога». Так цяпер нічога не абыходзіцца бяз слова «каханьне».

## Джынджыч

Захад, здаецца, зрабіў у Югаславіі стаўку на Зорана Джынджыча, маладога філёзафа, які стаў палітыкам. Джынджыч не пайшоў у войска, калі напала NATO, і цяпер Мілошавіч яго хоча судзіць як дэзэрціра. Ён спачатку схаваўся ў Чарнагорыі, а пасьля вярнуўся і заклікае да грамадзянскага непадпарадкаваньня Мілошавічу. У яго крыху сарамяжлівая ўсьмешка, але калі ён прамаўляе, дык вочы гараць, як у чалавека трохі шалёнага.

## Сьмеласьць

Самым сьмелым у Югаславіі быў ня Джынджыч. У горадзе Лескавацы адзін супрацоўнік тэлебачаньня не пабаяўся перарваць баскетбольны матч і заклікаць народ супраць Мілошавіча. Яго заарыштавалі, народ у горадзе збунтаваўся і дамагаецца ягонага вызваленьня.

## Сьмерць у Любенічы

У Косаве ў ваколіцах вёскі Любеніч недалёка ад гораду Печ, дзе рэзыдэнцыя сэрбскага патрыярха, знайшлі ў пятніцу магілы забітых у красавіку альбанцаў. Падобна, што іх пабілі ня менш за 300 чалавек. Былі ў гэтым месцы вялікія баі сэрбаў з УЧК, за што й каралі тутэйшых жыхароў. Усяго ў краі сэрбы пасьпелі забіць некалькі тысяч чалавек, знойдзена каля 200 вялікіх пахаваньняў. Ясна, што каб карнікам далі час зьнішчожыць сотні тысяч, тады б славянафілы маўчалі — добра што ў амэрыканскай мове няма выразу «добрая мысьля прыходзіць апасьля». ■



BBC

Альбанец плача на магіле: у адной з такіх магілаў ляжаць ягоныя родныя.

### весткі зь Літвы



## Беларускія мядзьведзі ідуць на Вільню

Вялікі буры мядзьведзь вагою да 250 кг зьявіўся ў ваколіцах Вільні. Вясковыя гаспадары прыехалі палоць буракі на сваіх градках на беразе Вяльлі і пабачылі там паламаную агароджу ды вялізныя сьляды, у якіх вольна зьмяшчаліся два мужчынскія кулакі. Пакліканы егер сп. Легас сказаў, што за трыццаць гадоў свае працы ў гэтым краі ён пра мядзьведзяў і ня чуў. А палясоўшчыкі сьцьвярджаюць, што мядзьведзь прыблукаў зь Беларусі, бо сваіх мядзьведзяў у густанаселенай Віленшчыне няма даўно, лічы, сто гадоў. Згадваюць, што пазалетась іншы беларускі мядзьведзь зайшоў у Рокіскі раён. А 30 гадоў таму бурага госьця застрэлілі ў Біржайскім раёне браканьеры. Ці то мядзьведзям няма чаго есьці ў РБ, ці наадварот, жывецца ім у беларускіх лясох гэтак добра, што плодзяцца несупынна?

## Памёр Авіжус



*Ёнас Авіжус*

Памёр Ёнас Авіжус, народны пісьменьнік Літвы. Адышоў у сераду, на 77-м годзе жыцьця. У Беларусі некалі Алесь Разанаў пераклаў ягоны раман «Час, калі пусьцеюць сядзібы». Усяго Авіжус выдаў 16 раманаў і 20 кніжак для дзяцей. У СССР яго ведалі, чыталі і далі яму Ленінскую прэмію. А пісаў ён пра літоўскую вёску і па сутнасьці сваёй сялянскім або камуністычным пісьменьнікам ніколі ня быў. Пра гэта сьведчаць ягоныя кнігі «з намёкамі», а таксама тое, што ў апошнія гады гэты патрыярх літоўскае літаратуры быў дэпутатам Сэйму ад партыі кансэрватараў (В.Ландсбэргіса).

## Колькі літоўцаў

Літоўцы ўзяліся лічыць, колькі іх ёсьць на сьвеце, і выйшла ў іх наступнае. У ЗША — 400 тысяч, у Лацінскай Амэрыцы — 90 тыс., у Канадзе — 24 тыс., у Нямеччыне, Польшчы і Вялікабрытаніі — па 10 тысяч. У краінах, што атрымаліся з былога СССР — яшчэ 160 тысяч літоўцаў (РФ — 76 тыс., Латвія — 40 тыс., Казахстан — 14 тыс., Украіна і Беларусь — 20 тыс. і г.д.). Склалі ўсё разам, і выйшла ўсяго 700 тысяч чалавек. Гэта значыць, што кожны чацьверты ў сьвеце літовец жыве не на бацькаўшчыне.

## І Фёдараў — беларус

Знакаміты расейскі афтальмолаг прафэсар Сьвятаслаў Фёдараў у інтэрвію літоўскай газэце *Respublika* прызнаўся ў сваіх беларускіх каранях. На пытаньне «Якія ў вас сувязі зь Літвой?» С.Фёдараў адказаў: «Ёсьць і генэтычныя сувязі — мой дзядуля — беларус, жыў дзесьці паблізу ад літоўскай мяжы».

## Літва — першая ў самагубствах

Той грамадзкі ўздым, што панаваў у Літве ў часы «Саюдзіса» і здабыцьця незалежнасьці, спакваля зьмяніўся для каго на спакойнае жыцьцё, а для каго й на дэпрэсію. Пра гэта на мінулым тыдні казаў у сваім выступе ў Сэйме сьпікер Вітаўтас Ландсбэргіс. У Літве самагубстваў сярод мужчын у чатыры разы больш, чым у ЗША. А ўвогуле амаль 2 тысячы літоўцаў у год замест жыцьця абіраюць сьмерць. У афіцыйных паведамленьнях ААН канстатуецца, што па колькасьці самагубстваў сярод моладзі Літва апярэдзіла ўсе краіны Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Прычыны гэтага В.Ландсбэргіс бачыць у агульнай дэпрэсіі, у беспрацоўі, у сурагатах алькаголю, якія запаланілі краіну і ў тым, што Сэйм зусім не займаецца праблемамі духоўнага ды псыхалягічнага стану грамадзтва.

## Галоўная стаўка — на Беларусь

Сытуацыя на Ігналінскай АЭС застаецца надзвычай цяжкай. З аднаго боку, Захад патрабуе закрыць станцыю савецкага ўзору (яна такая самая, як у Чарнобылі), з другога — станцыя не атрымлівае грошай ад пакупнікоў электраэнэргіі, найперш ад Беларусі. Дырэктар АЭС Віктар Шэвалдзін пракамэнтаваў становішча наступным чынам: «Даўгі Беларусі — гэта прыблізна на 90 працэнтаў грошы атамнай станцыі, якія нам востра патрэбныя. Сытуацыя зь беларускім доўгам перш за ўсё і ўдарыла па ІАЭС. З траўня і да сёньня электрычнасьць у Беларусь не пастаўляецца». Пры гэтым В.Шэвалдзін заўважыў, што бяз продажу энэргіі ў Беларусь станцыя будзе нерэнтабэльнай.



Латвія купляе энэргіі вельмі мала, а Калінінградзкай вобласьці купляць забараніла Масква. Сёньня, як вядома, Беларусь шукае таньнейшае энэргіі. Таму В.Шэвалдзін прапануе ўраду перагледзець палітыку цэнаў і сыстэму разьлікаў. «Літоўскія спажыўцы ў другім паўгодзьдзі могуць запатрабаваць толькі 4 млрд. квт/гадзінаў. Калі не прадаваць на экспарт яшчэ 3 мільярды, дык за год у цэлым ІАЭС не пакрые свае затраты. Таму галоўная стаўка — на Беларусь», — сказаў В.Шэвалдзін. ■

# АДЗІН, ЯК ЦЭЛАЕ ВОЙСКА

Генадзь САГАНОВІЧ

Князю Багуславу Радзівілу, які ня раз дзівіў сучасьнікаў адвагаю, але быў так зьняслаўлены Сянкевічам у «Патопе», давялося з чужым войскам бараніць не сваю зямлю ад харугваў Вялікага Княства. І аднаго дня ліцьвіны з татарамі так націснулі, што яго шчуплыя аддзелы кінуліся ўцякаць. Паніка ўмомант ахапіла ўсіх, і войска ператварылася ў натоўп. Як ад сьмяротнай лавы, пабеглі ўсе, апрача яго – князя Багуслава. На момант падхоплены было ўцекачамі, ён цьвёрда павярнуў каня насустрач непрыяцелю. То быў чын сьмяротніка — аднаму стаяць супраць хмары разьятраных татараў! Так мог дзейнічаць толькі д'ябал! У тым псыхозе чалавек з нармальным глуздам ня здолее пераадолець прыродны інстынкт самазахаваньня. Але ён, Багуслаў, не ўцякаў ніколі ў жыцьці. Яму заўжды найбольшай ганьбай было паказаць, што баіцца. Так выхаваўся, і такую ўжо меў ролю – мусіў быць годным славутага роду! Думаю, менавіта гістарычна-родавая ідэнтыфікацыя давала такую маральную сілу, што нэўратычнай рэакцыі натоўпу князь здолеў супрацьпаставіць цьвёрды валявы чын. І ў тыя хвілі духова ён адзін стаў вышэй цэлай арміі!

Аднак фізычна хіба можна аднаму вытрымаць атаку сотняў? Заціснуты з усіх бакоў, паранены ў галаву, Багуслаў зваліўся долу, што стала натуральным канцом яго шалёнага ўчынку. У імгненьне над распластаным князем узьнеслася татарская дзіда. Удар і... рука Ба-



гуслава ў лёце ловіць наканечнік дзіды, дрэўца трашчыць, і сьмяротнае вастрыё застаецца ў яго скрываўленай далоні.

Скручаны, ён трапіў у палон, але неўзабаве зноў быў на волі. Зьдзейсьнілася немагчымае: князь вырваў сябе з абдымкаў кашчавай! Нібы рвучы рабскую пакору перад сьляпой прыроднай залежнасьцю і цьвердзячы, што гісторыя – учынак чалавека.

Ня ведаю, хто яшчэ гэтак халаднакроўна гуляў са сьмерцю! Тым больш загадкавым стаў апошні дзень князя. Ён прысьніў прыгажуню ў белым, якая падышла і раптам тырканула яму нажом у грудзі. Абудзіўшыся, моцна замаркоціўся і сказаў прыслузе: «Ат, пабачыце, доўга не пажыву ўжо». І сапраўды, памёр наступнага ж дня ў сваёй карэце. ■

# У ЖЫЦЬЦІ ЗАЎСЁДЫ

*Анталёгія беларускага ўчынку*

**На тое, што перавяліся героі, народ наракае здаўна. Калі няма войнаў — якія ж героі? Савецкая прапаганда, праўда, пераконвала ў адваротным: у жыцьці заўсёды ёсьць месца подзьвігу. Вось паглядзіце на стаханаўцаў або на хлопца з мэдалём «За адвагу на пажары», або на сьмелых палярнікаў. Урэшце, узораў геройства стала гэтулькі, што разьбягаліся вочы, а наўзамен пачуцьцю пашаны прыйшла іронія. Ну, як можна было не іранізаваць з гераічных бухгалтараў, чые будні апісваліся з патасам Кулікоўскае бітвы. Або са старца-Брэжнева, які сапраўды гераічна чытаў свае чатырохгадзінавыя даклады чарговаму зьезду КПСС. Пачаліся анэкдоты пра Васіля Іванавіча, Марэсьева, Штырліца... Сяды-тады яшчэ гучалі абураныя галасы маралістаў пра кудысьці зьніклага героя нашага часу, але й гэтыя заклікі накрыла наступная гістарычная эпоха — антысавецкая.**

**Беларуская інтэлігенцыя толькі падняла была галаву, толькі ўзялася за стварэньне новага нацыянальнага эпасу, толькі пачала дыскусіі (у тым ліку і ў «НН») пра патрэбу гістарычнае міталёгіі для шырокіх народных масаў і для выхаваньня дзяцей, як насталі часы адкату. Замяталінскія герастраты пусьцілі пад нож усё напрацаванае гісторыкамі, спрабуючы вярнуць спарахнелыя і абсьмяяныя стэрэатыпы часоў СССР. Пра героіку і высакародны ўчынак не магло быць гаворкі. Цынічныя перадыслякацыі самога Замяталіна зь лягеру пераможаных у лягер пераможцаў сьведчаць аб марнасьці якіх бы там ні было згадак пра подзьвіг, высакародзтва, мараль.**

**Аднак гэта ўсё — пра рэжым, і зусім ня значыць, што беларускі сьветапогляд ня мусіць фармавацца на выразных прыкладах сваіх герояў і высакародных учынкаў. Гэтаксама як існуе розьніца паміж нізкапробнай расейскай папсою, што пануе ў нас сёньня, і масавай культурай, якой у Беларусі пакуль няма, існуе розьніца і паміж культам хамства і высакародным арыенцірам.**

**Самое слова «подзьвіг» паступова пераходзіць у лік састарэлых. Подзьвігам называюць цяпер, да прыкладу, царкоўны пост. А ў звыклым для савецкага вуха значэньні гэтае слова начыста прапала з сучасных, прынамсі, інтэрнэтаўскіх слоўнікаў. І згадваецца хіба што ў зьвязку з Гераклам, Дон Кіхотам або баронам Мюнгаўзэнам. Але гэта нам не перашкодзіць, бо мы будзем гаварыць пра подзьвіг у экзыстэнцыйным сэнсе, пра беларускі ўчынак.**

**У гэтым няма нічога новага, калі не лічыць азначэньня «беларускі». Менавіта дзеля чалавечых учынкаў зьвяртаюцца людзі да Старога і Новага запавету, да антычнае літаратуры, да Шэксьпіра. Маральны выбар, сіла і цьвёрдасьць духу, а таксама сіла фізычная — гэта тое, што прыцягвае сучаснага спажыўца культуры як да**

# АЛЬБОМ НА ПАМЯЦЬ

Сяргей ХАРЭЎСКІ

Паўстанцкі камандзір 1831 году, літаратар і кампазытар Напалеон Орда пад час паўстаньня Каліноўскага нечакана для ўсіх заняўся, як тады здавалася, недарэчнай справаю — пачаў маляваць памятныя мясьціны й шэдэўры беларускага дойлідзтва...



Горадня. Гравюра Напалеона Орды.

Пасьля ўдзелу ў папярэднім паўстаньні ён ледзь пасьпеў эміграваць, і ў Францыі цалкам прысьвяціў сябе музыцы. Настаўнікам стаў ягоны сябра — Шапэн. Эўрапейская вядомасьць прыйшла да кампазытара Орды хутка. Слава, грошы й спакойнае жыцьцё ў вясёлай францускай сталіцы былі гарантаваныя. Тады Орда заняўся і літаратурай. Тут ягоным настаўнікам стаў другі сябра — Адам Міцкевіч. Напэўна, і ў гэтай справе Орду чакаў посьпех.

Аднак, усё вырашылася паіншаму. Напачатку паўстаньня Каліноўскага ён нелегальна вяртаецца на радзіму. І ня з тым, каб наноў узяць у рукі стрэльбу, ня з тым, каб заняцца палымянай публіцыстыкай. І нават ня дзеля таго, каб пісаць маршы ды паўстанцкія гімны. Ён абірае сабе ролю мастака, каб намаляваць усе помнікі, якія ёсьць у краіне, каб захаваць памяць пра іх на вякі. Орда становіцца мастаком у 49 гадоў! У часе паўстаньня 1863 году і пасьля яго ён, нібы нічога вакол не адбываецца, аб'яжджае ўсю Беларусь ад Асьвеі да Кобрыня, ад Сапоцкіна да Турава. У выніку зьяўляюцца тысячы графічных твораў.

Чаму ён ня браў чыну ў паўстаньні Каліноўскага? Прадчуваў, чым яно скончыцца? А стаўшы мастаком, зьбярог для нашчадкаў тую Беларусь, яшчэ не апаганеную, не расейскую. Літаральна сьлед у сьлед за ім ішлі акупанты й зьнішчалі ды ганьбавалі тыя сьвятыні, якія толькі што зафіксаваў Орда. Большай часткі іх цяпер не йснуе наогул.

Два дзясяткі гадоў ён вандраваў, ня маючы свайго дому, цалкам аддаўшыся мастацтву. Але прыйшоў час, калі зробленыя калісь у Парыжы грошы скончыліся. Скончылася й жыцьцё. Першы альбом зь літаграфіямі Орды выйшаў пасьля ягонае сьмерці, у Аўстрыі. Пасьля былі наступныя альбомы. Ён здабыў сабе новую, пасьмяротную славу. Ні да яго, ні пасьля ніводзін мастак не рабіў гэткае тытанічнае работы. Да сёньня ягоная спадчына яшчэ не сабраная цалкам. Ніхто пэўна ня ведае нават колькасьці ягоных гравюраў, літаграфіяў ды акварэляў. Часам здаецца, што ім няма канца — выявам беларускіх гарадоў, мястэчак, замкаў, цэркваў ды маёнткаў... ■

# СЯКЕРА НЕВЯДОМАГА САЛДАТА

Зьміцер БАРТОСІК

У адной роце ў Расеі разам са мною служылі два беларусы, два зямлякі. Паміж імі была вялікая розьніца ў гадах — аднаму 19, другому 28. За плячыма першага быў толькі няскончаны тэхнікум. У другога — бурлівае жыцьцё, што пакінула на ягоным целе красамоўныя шнары і татуіроўкі. Прозьвішча старэйшага запомніць было нацяжка. Яго звалі Немец.



Паколькі ў войска Немца забралі з калёніі і пад самы ўзроставы ліміт, дык увесь свой эмацыйны запал ён абрынуў на галовы й душы аднапалчанаў. Ня дзіва, што на працягу ўсяго свайго новага двухгадовага тэрміну ён стаў аб'ектам нянавісьці для ўсіх — ад навабранца да «дзембеля». Але асаблівай увагай Немец адорваў свайго земляка. Не даваў яму праходу ані на аб'екце, ані ў казарме. Абразы, жорсткія поўхі ды іншыя «нестатутныя дачыненьні» сыпаліся на галаву беднага «зёмы» і ўдзень, і ўначы. Той маўчаў. І гэта працягвалася датуль, пакуль аднойчы ранкам Немца не знайшлі за будаўнічым вагончыкам з праламаным чэрапам. Скарыстаная на тое сякера ляжала побач.

Наш атрад уздыхнуў з палёгкай. А слава героя, дзякуючы гэтаму ўчынку, пайшла на ўсю вайсковую акругу. Усё было разьлічана ім да дробязяў — маршрут Немца з абеду, непрагляднае зь іншых кропак месца паміж вагонамі. Нават час забойства.

Немцу заставалася служыць некалькі тыдняў. Таму, чыё прозьвішча назаўжды сьцерлася з маёй памяці, — паўгода. Ён зрабіў тое, аб чым нам усім толькі марылася. Таму ўсе шчыра жадалі яму ніколі ня быць злоўленым.

А злавілі яго праз тры месяцы. Суд прызначыў шэсьць гадоў агульнага рэжыму. Пэўна, Бог быў на ягоным баку. Немец выжыў. Ён мог моргаць вачыма, мыкаць і прымаць ежу з матчынай рукі...

Адзінае, што для мяне засталося няясным — ці зьдзейсьніў бы герой задуманае, калі б Немец быў узбэкам ці грузінам? Ці дасягнула б нянавісьць таго накалу, які безразважна ўзьняў руку на крыўдзіцеля-адзінакрэўніка? Ня ведаю. Магчыма, аднаго чакала б цяпер кар'ера бандыта. Другі ж насіў бы сваю злосьць па сёньняшні дзень. ■

апытаньне

***Натальля КУГАЧ, студэнтка МДЛУ:***

*Подзьвіг — гэта ня нейкія асобныя ўчынкі. Не, гэта жыцьцёвая вытрымка, упартасьць, калі чалавек робіць нешта, маючы асабісты ідэал, дзеля спасьціжэньня гэтага ідэалу, дзеля ажыцьцяўленьня мары, магчыма нават патаемнай. Прычым подзьвіг — гэта калі вялікія справы робяцца без самаўхвалы, паказнога самаахвяраваньня. Часьцяком гэтага ніхто не заўважае, а калі й заўважае, дык ня цэніць.*

*Прыклад — наш таямнічы сучасьнік Мірон. Ну, а зь недалёкага мінулага — наш бацька Махно, дзед Талаш, якому за яго змаганьне лёс усё ж неяк аддзячыў, бо пражыў ён, кажуць, больш за 100 гадоў.*

***Віталь ЁСКАВІЧ, студэнт БДУ:***

*Подзьвіг можа быць ва ўсім: у каханьні, на працы, у змаганьні. Гэта акумуляцыя жыцьцёвай энэргіі, выплеснутай у нейкім канкрэтным учынку, і гэты ўчынак, подзьвіг, ёсьць эсэнцыяй чалавека.*

*Па-мойму, самы сьмелы подзьвіг беларусаў у наш час — гераічнае штурмаваньне «чаўнакамі» беларуска-польскай мяжы, калі беларусы дзеля выжываньня праяўляюць цуды кемлівасьці ў барацьбе з мытнікамі. Відаць, адной сьмеласьці мала для подзьвігу, трэба яшчэ й мазгой варухнуць.*

***Вольга БАГДАНОВІЧ, абітурыентка расейскай філялёгіі БДУ:***

*Для мяне подзьвіг — гэта самаахвяраваньне дзеля нечага высокага, духоўнага ідэалу. Ён ня мусіць быць заплянаваным ці распрацаваным. Ён нечаканы нават для самога чалавека, які раптам робіцца героем.*

# ЁСЬЦЬ МЕСЦА КОЖНАМУ

Бібліі, так і да найлепшых галівудзкіх баевікоў. Чалавечы ўчынак не старэе, бо, чытаючы пра тое, што зрабіў герой, заўсёды думаеш — а як на ягоным месцы зрабіў бы ты.

З апісаньня подзьвігаў складаецца эпас. Беларуская культура да свайго гераічнага эпасу толькі падступаецца. Падступаецца даўно, але кожнага разу які-небудзь чарговы Замяталін устае на шляху гэтага працэсу, і шэдэўр не высьпявае. Героі фальклёру, літаратуры і гісторыі не знаходзяць міжсобку жанравае сувязі менавіта таму, што ня выпісаныя ва ўчынках. Гэтак узьнікла ідэя рэдакцыі «НН» стварыць сваю Анталёгію беларускага ўчынку.

Высьветлілася, што гэта ня так проста. Спакуса апісваць гістарычны антураж або біяграфію асобы, спакуса патасных словаў і вытлумачэньня ўсіх матывацыяў героя з выглядам усязнайства, спакуса школьнае дыдактыкі — гэтыя рысы прышчэпленыя нам папярэдняй літаратурай, якая пазначыла сабою ранейшы, элітарны этап засваеньня нацыянальнае гісторыі. А вось учынак, адабраны і пераказаны так, як мы пераказваем адзін аднаму падзеі мінулага ўікэнду, патрабуе пэўнага літаратурнага таленту і пераасэнсаваньня.

Вось герой, які таемна вывешвае нацыянальны сьцяг на недаступнай вышыні. Пасьля пажарнікі з рызыкай для жыцьця дабіраюцца да крамольнага палотнішча і знаходзяць там запіску з імем героя. Пра Мірона ўжо складаюць паэмы і пішуць у раманах. А ён застаецца таямнічым, як той Караткевічаў Чорны Война, што сам-насам змагаўся з расейскай акупацыяй паміж паўстаньнямі 1831 і 1863 гадоў. Менавіта ў такіх постацях і ўчынках выяўляецца сымболіка беларускае партызанкі, а не ў пляндавай рэйкавай вайне або акцыі забойства гаўляйтэра, пасьля якіх акупанты помсьціліся на нічым не вінаватых людзях і палілі беларускія вёскі.

А вось паэт, які вырашыў зьнішчыць супастата забойчым вершам і паплаціўся за гэта дзесяцьцю месяцамі турмы. Ягонае імя — Славамір Адамовіч.

Ці зусім сьвежы прыклад — хлопец, які выцягваў і ратаваў людзей з кучы чалавечых целаў на станцыі мэтро Няміга. Ягонае імя пасьля зьявілася ў газэтах — Яўген Баброўскі. Хлопец, як выглядае, зь неардынарным запасам высакародзтва, калі робіш ня думаючы, як аўтамат, і табою рухае ня розум, а твой чалавечы кантэкст. У выніку дзясяткі людзей застаюцца жыць.

Менавіта з учынкаў паўстане і вырасьце беларуская масавая культура. Не з папсовых песенек, не з маралізатарскіх пераказваньняў патрыятычных сюжэтаў, не з аб'ектывісцкае праўды фактаў, а з праўды сумленьня і з праўды крыві. Матэрыялам для гэтага стане і фальклёр, і старая літаратура, напрыклад, Баркулабаўскі летапіс, у якім так шмат забытых герояў, і літаратура новая, у якой менавіта на экзыстэнцыйны і беларускі ўчынак рабілі стаўку Караткевіч і Быкаў, і самое жыцьцё, у якім заўсёды і для ўсіх ёсьць месца выбару.

Сяргей Паўлоўскі

*Ну, а чаму Марата Казея нельга назваць героем? Хоць, па праўдзе, я нават дакладна ня ведаю, што ён зрабіў, здаецца, падарваў сябе і немцаў гранатай. Гэта ўжо нешта. Але тут яшчэ вельмі важна ведаць першапрычыну учынку. Думаю, што ня раз подзьвігам абвяшчаліся дзеяньні выпадковыя, ніяк не зьвязаныя са сьмеласьцю ды гераізмам. Але брудная скарыстаньне подзьвігу — асобная тэма.*

***Павал ШАПАВАЛАЎ**, «проста прахожы», 22 гады:*

*Ну, ня ведаю я, што такое подзьвіг. Гэта вам трэба ў якога героя спытацца. Ёсьць жа героі ў нас жывыя: герой сацыялістычнай працы, Савецкага Саюзу. Вунь, Брэжнеў сабе аж пяць зорак быў начапляў. Можа таму і ня трэба ставіць слова «подзьвіг» побач з «героем»? Цяжка сказаць.*

*А самы сьмелы подзьвіг? Калі подзьвігам можна назваць чыёсьці жыцьцё, дык у беларусаў гэта Кастусь Каліноўскі. Подзьвіг — гэта маладосьць.*

***Сяргей ВАСІЛЮК**, абітурыент МДЛУ:*

*Подзьвігі здольны зьдзейсьніць далёка ня кожны, размовы пра подзьвіг народа — поўная лухта. Гэта справа Асобы, Чалавека зь вялікай літары, які сваім учынкам вырываецца з масы. Толькі што потым, часьцей за ўсё пасьмяротна, подзьвіг тая маса забірае сабе, робіць зь яго фішку. Гэта самае прыкрае. З нашых сучасьнікаў такі Чэ Гевара.*

*Подзьвігі беларусаў у мяне асацыююцца зь вялікай айчыннай. Што ні кажыце, а абаронцы Брэсцкай крэпасьці, Марат Казей, Гастэла былі сапраўднымі героямі. Яны перамаглі сябе, перамаглі сьмерць. Подзьвіг — гэта несьмяротнасьць.*

Апытваў Анатоль Прасаловіч

# ЗАГАДКА «В.Ш.»

Аляксандар ЛУКАШУК

Ён хадзіў па вуліцах Парыжа, вучыўся ў Сарбоне, пасьля ў Бэльгіі, у Лювэнскім унівэрсытэце. Перад гэтым у ягоным жыцьці была Прага, а таксама Рым. Усюды побач зь ім была Беларусь: у Францыі ён стварыў згуртаваньне беларускай моладзі і выдаваў газэту, у Бэльгіі



разам зь беларускай грамадой сьпяваў у знакамітым хоры.

Але яму не хапала Беларусі, і апошняй сталіцай, якую ён пабачыў у сваім жыцьці, стаў Менск. Яго правезьлі па вуліцах гораду, па праспэкце Сталіна, у раён трактарнага і аўтазаводу – паказаць, як адбудоўваецца сталіца пасьля вайны. Дзьверы легкавіка былі зашклякаваныя, і побач зь ім сядзеў ягоны сьледчы — падпалкоўнік МГБ.

Ён апусьціўся на беларускую зямлю зь неба на амэрыканскім парашуце. Год у лясох Вялейшчыны дзейнічала ягоная група. Яго арыштавалі праз здраду. Невядома, колькі разоў сьпяваў пры гэтым певень – але напэўна сьпяваў, які ж сялянскі падворак у Беларусі бязь пеўня.

Толькі за першы месяц яго пратрымалі на допытах больш за дзьвесьце гадзінаў. Лепшыя крыптолягі менскага КГБ ламалі галовы над загадкавым запісам у ягоным лісьце: «У горадзе в.ш. войска». Імя якога гораду зашыфраванае ў «в.ш.»? Дзе ён, гэты загадкавы горад? Што дакладаць у Маскву? Чаму арыштаваны так сумна ўсьміхаецца ў адказ на гэтае пытаньне?

Ён не знайшоў тую Беларусь, якую шукаў: горш за здраду ўражвала тое, што самы просты скарот «вельмі шмат» не разумелі ў той краіне. Але, магчыма, у гэтым палягала надзея: ягоная Беларусь, як таямнічая крэпасьць, заставалася недаступнай чужынцам і бараніла сябе праз мову.

Яго расстралялі ў дзень сьмерці Сталіна. Дакладней, Сталін сканаў у дзень, калі адлецела на неба душа Янкі Філістовіча. ■



бытавуха

Славамір АДАМОВІЧ



І нешта не зусім тое бачу, і штосьці круціць мне вуха.

Зайздросьцяць першым нашы правыя, а ў іх вучыцца варта. Журналістаў спрабуюць павучаць, а зь імі супрацоўнічаць трэба. І не надзімацца, як мыш на крупы, а справу рабіць, каб па Краіне грымела.

Ня ўсе, ня ўсе нашы заправелыя змогуць стаць плавільшчыкамі расы. Але ня будзем шкадаваць пра тое. Натуральны адбор дзейнічае паўсюль. І сапраўдная сіла яшчэ расьце.

### КЛАШАРЫ

Гэтымі гарачымі днямі іх асабліва многа: на вакзалах і прывакзальных тэрыторыях, у сквэрах, парках і каля столікаў летніх кавярняў. У транспарце яны дастаюць асабліва.

Саладкавата-трупным духам сьмярдзяць іх закарэлакаросьлівыя целы. Дрэнна, трывожна робіцца ад сустрэчаў зь імі. Адчуваньне, быццам на труну зь нябожчыкам напароўся.

І чамусьці здаецца, што менавіта клашарам скончыць сваё існаваньне ППРБ.

### БЕЛАЕ-БЕЛАЕ

Пульхная баба гадоў трыццаці пяці з вульгарнай фізіяноміяй дзёрзка дэманструе свае белыя сьцёгны, папіваючы алькаголь у кампаніі кантрабасіста і яго таварышаў. Я з радасьцю дапамог бы ёй, але ў мяне свой кагальчык, які таксама патрабуе ўвагі. Нейкая мілата ёсьць у тым, як жанчыны здымаюць хлапцоў. Цікавы гэты працэс, але яшчэ цікавей быць аб'ектам жаночай інтэрвэнцыі.

### ЧОРНЫМ ЧОРНАЯ

Падпіўшы, вычапіў каля ўнівэрсаму «Рыга» зусім маладзюсенькую цыганачку. Стаяла, самотная, за сьпінамі гандляра семкамі. Пайшла са мною. Сказала, што ўцякла ад сваіх. Назвалася Верай. Выпаліла дзьве цыгарэты, стрэскала кулёк семак, разы два ў вусны пацалавала і ўцякла. Не засталася — ня буду маніць. Прыгожая, смалістая, добра пахла і... гаварыла па-беларуску!

### ЛІКВІДАТАРЫ

Крыніца з аднаго сілавога міністэрства паведамляе, што хутчэй за ўсё і Віньнікаву, і Захаранку выкралі так званыя ліквідатары — наёмнікі з глыбока закансьпіраванага спэцпадразьдзяленьня, якое ў часы СССР займалася фізічным зьнішчэньнем крымінальных аўтарытэтаў, палітычных апанэнтаў і тэрарыстаў. Наш інфарматар выказвае ўпэўненасьць, што «ліквідатары» атрымалі загад толькі выкрасьці Віньнікава й Захаранку, таму ёсьць надзея, што яны жывыя і фактычна зьяўляюцца закладнікамі. Праўда, не зусім ясна, у якой форме, калі і кім будзе запатрабаваны выкуп.

Крыніца таксама запэўнівае, што 90 % супрацоўнікаў міліцыі будуць задаволеныя зьмяшчэньнем ППРБ з пасады. Больш за тое, яны падтрымаюць тую сілу, якая возьме на сябе сьмеласьць ажыцьцявіць такое зьмяшчэньне.

### НАДТА ЗАПРАВЕЛЫЯ

Угледаюся ў фізіяноміі нашых праварадыкальных, услухоўваюся ў іхныя гутаркі.

### ПАРА ЛЮБОШЧАЎ

Любіцца файна пры любым надвор'і, але асабліва — у сьпёку. Гарачыя целы плывуць, курэюць, раскрываюцца порамі, прыкіпаюць адно да аднаго, семя пахне асабліва моцна, а ў таго, хто зьверху, сьпіна пакрываецца гарохвінамі поту.

І на вуліцах што робіцца, на праспэктах нашай сталіцы! Як калыхаюцца магістралі беларускім раскошным целам!..

### КРЭСОВАЕ

Забегла на пару гадзінак Арганістка са словамі самахарактарыстыкі ўласных формаў. Кажа, естэм бяла, як жыдовска вэш. Белая, значыць, як жыдоўская вош. Цалаваліся, што праўда, вяла, і работы не зрабілі, затое пасьмяяліся з мовы нашых «крэсавякаў» падгарадзенскіх. А як не пасьмяяцца з гэткіх во пэрлаў «крэсовай» бытавухі: «ідзь посьцірай носкі, допукі вода в рурах цекне», альбо «яна ест сільна моцна красіва». Падумаўшы, дык і дзякуй Богу, што яно так, а не іначай.

### ВІЛЕНСКІЯ ГУСТЫ

Калі я мінулай восеньню трапіў першы раз у адну зь віленскіх кавярняў, раскошна абсталяваную пад старыну, то падумалася, што гаспадару пашанцавала з мастаком-афармляльнікам. Інтэр'ер той кавярні быў, бадай, ідэальны. Але аказалася, што і астатнія віленскія кавярні абсталяваліся ня горш. Напрыклад, «Грамутэ» («Грамулька»), у якой іграе добрая музыка, на сьценах у рамках — сямейныя фоткі дабальшавіцкіх і падпольных часоў, розныя бытавыя рэчы даўняй пары, салідныя драўляныя сталы... Цяпер я схіляюся да думкі, што справа ня столькі ў таленавітых мастаках-дызайнэрах, колькі ў высокіх мастацкіх густах сёньняшніх віленчукоў, якія закладаюць свой кавярневы бізнэс не на год-два, а сама мала на дзесяцігодзьдзі.

Днямі трапіў у адзін сталічны рэстаран і яшчэ раз адчуў, наколькі віленскі «Захад» бліжэй да чалавека, чымся менскі «Ўсход». ■



калёквіюм

# ВЫНАХОДНІЦТВЫ ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ

Увосені 1997 году амэрыканскі часопіс «Life» надрукаваў спэцвыпуск, прысьвечаны сотні найбольш важных падзеяў другога тысячагодзьдзя. На думку экспэртаў, найбольш значнымі падзеямі сталіся:

1) вынаходніцтва кнігадруку Гутэнбэргам у 1455 годзе,

2) адкрыцьцё Амэрыкі,

3) абвяшчэньне Лютэрам у 1517 годзе ў Вітэнбэргу сваіх тэзысаў,

4) вынаходніцтва паравой машыны,

5) змаганьне Галілея супраць царквы за капернініканскі сьветапогляд.

Увесну 1999 году нямецкі часопіс «Bild der Wissenschaft» надрукаваў свой сьпіс найбольш значных тэхнічных вынаходак тысячагодзьдзя. Першую 50-ку склалі (за альфабэтам): *антыбіётыкі, атамная бомба, аўтамабіль, батарэйкі, гадзіньнік, генэратар, генная інжынэрыя, дынама, зварка, інтэрнэт, кампутар, канвэер, ксэракс, касьмічныя палёты, кніжны друк, компас, ляззр, лямпа напальваньня, магнітная картка, мікраскоп, навігацыйныя прыборы, оптавалаконная сувязь, паліўны элемэнт, паравая машына, паскаральнік часьціц, плястык, порах, расшчапленьне ядра, радыё, радыёпрыймач, робаты, ровар, рухавік унутранага згараньня, рэактыўны рухавік, рэнтгенаўскае выпраменьваньне, самалёт, сплавы, стужка, ткацкі станок, транзыстар, тэлебачаньне, тэлеграф, тэлескоп, тэлефон, успышка, фатаграфія, хіміятэрапія, чып, штучныя ўгнаеньні, электраматор.*



З свайго боку, мы прапануем Вам вызначыць ***10 тэхнічных вынаходак*** і ***навуковых адкрыцьцяў***, якія асабіста Вам здаюцца:

найзначнейшымі (3 балы)
вельмі значнымі (2 балы)
значнымі (1 бал).

Вы можаце прапаноўваць таксама тое, што ня згадваецца ў вышэйпададзеным сьпісе.

Пасьля таго як вызначыцца ўвесь сьпіс, мы параўнаем яго з эўрапейскім і на нашай старонцы раскажам пра цікавыя найноўшыя вынаходкі і адкрыцьці больш падрабязна. ■

абы-што

# ЯК ЗАВЯЗАЦЬ ГАЛЬШТУК 91-м СПОСАБАМ

Два брытанскія матэматыкі — Томас М.Фінк і Янг Мао з кембрыдзкай Кевэндыскай лябараторыі вынайшлі шэсьць дагэтуль невядомых вузлоў для гальштука. Гэта яны зрабілі не практычна (не сядзелі і завязвалі ды разьвязвалі гальштукі), а тэарэтычна — калі распрацавалі мадэль, якая грунтуецца на сукрацьці з трохкутнікаў, на якім яны мадэлявалі асобныя крокі пры зьвязваньні гальштука.



З 85 (!) вядомых вузлоў, якімі можна завязаць гальштук, толькі чатыры агульнавядомыя і выкарыстоўваюцца на практыцы. «Мы вынайшлі шэсьць новых вузлоў, якія па сваёй лёгкасьці і эстэтычнасьці нагадваюць гэтыя чатыры», — кажуць матэматыкі.

Перад тым пасьля пяцідзесяцігадовай вузлавой абстынэнцыі 85-ы вузел быў вынайдзены ў 1989 годзе і надрукаваны на тытульнай паласе газэты «New York Times».

Іван Міцкевіч

Тыдзень з прафэсарам Каркаранам

# ФУТУРАШОК

Падабаецца нам ці не, але сьвет, у якім нам наканавана жыць і памерці, апошнім часам кардынальна зьмяніўся і зьменіцца яшчэ больш за наша жыцьцё. Тым ня менш, час ад часу мы сустракаем прадстаўнікоў «грамадзкай думкі», якія гатовыя адмовіцца ад зьменаў і вярнуцца ў мінулае, якое здаецца ім больш зразумелым і таму больш «натуральным».

Мы ня можам спыніць кола гісторыі, нават калі б гэтага хацелі. Здабытыя веды і тэхніка ня могуць быць проста забытыя. І мы ня можам прадухіліць наступных крокаў у будучыню. Ніхто ня можа забараніць думаць над навуковымі пытаньнямі нават тады, калі за гэта ня плацяць. Дзяржава можа не фінансаваць дасьледаваньняў, але фірмы-канкурэнты ў пагоні за прыбыткам будуць паскараць навукова-тэхнічны прагрэс. Толькі таталітарная дзяржава, якая забараняе любыя зьмены, можа на пэўны час штучна замарудзіць разьвіцьцё. Хаця мы ня можам прадухіліць зьменаў, мы павінны даць ім патрэбны накірунак. У дэмакратычнай дзяржаве грамадзкасьці патрэбныя навуковыя веды, якія дазволяць прымаць абгрунтаваныя рашэньні, грунтуючыся на розуме, а не на пачуцьцях.

На жаль, у грамадзтве цяперака пануе дваістае стаўленьне да навукі і навукоўцаў. З аднаго боку, жыцьцёвыя ўмовы стала паляпшаюцца, дзякуючы навуцы й тэхніцы, з другога боку, існуе недавер да навук і навукоўцаў. Банальны прыклад гэтага — вобраз звар'яцелага на сваёй навуцы прафэсара ў кіно і коміксах. У школе закладваецца аснова навуковых ведаў, але прагрэс ідзе настолькі хуткімі тэмпамі, што мы не разумеем, што адбываецца ў сьвеце, як дзейнічаюць рэчы, якімі мы штодзённа карыстаемся.

У выніку навуковыя праблемы застаюцца далёкімі і незразумелымі. Журналістам не хапае адукацыі, каб пісаць пра навуку, чытачам не стае адукацыі і часу, каб зразумець спэцыялізаваныя часопісы. Пад час чытаньня менскіх газэтаў і часопісаў міжволі складаецца ўражаньне, што, акрамя нашых унутраных палітычных гульняў і чаканьня рэакцыяў ЗША і ЭЗ на іх, у сьвеце нічога больш не адбываецца. Ні посьпехаў у геннай інжынэрыі і дэбатаў вакол яе, ні посьпехаў у галіне нанатэхналёгіі, ні дасьледаваньня касьмічнай прасторы — нічога.

Але возьмем, да прыкладу, кроніку навінаў кланаваньня паводле адной з сусьветных інфармацыйных службаў:

24 лютага 1997: Долі — авечка, якая можа зьмяніць наша жыцьцё

7 сакавіка 1997: чалавечы эмбрыён можа быць кланаваны не пазьней за 1999 год

5 чэрвеня 1997: ЗША дазволілі кланаваць чалавека



20 кастрычніка 1997: можна кланаваць асобныя органы чалавека для перасадкі

13 студзеня 1998: Брытанія не далучаецца да забароны на кланаваньне

30 студзеня 1998: кланаваны чалавечы эмбрыён можа выратаваць чужое жыцьцё

10 сьнежня1998: чалавечы эмбрыён будзе кланаваны ў наступным годзе

18 чэрвеня 1999: фірмай «Advanced Cell Technology» ў ЗША упершыню кланаваны чалавечы эмбрыён

21 чэрвеня 1999: у Пэкіне ўпершыню выкарыстаны для кланаваньня гігантцкай панды ген нежывой жывёлы

30 чэрвеня 1999: паказана магчымасьць кланаваць асобныя органы чалавека

Пачынаючы сёньня новую паласу, мы ня ставім перад сабой глябальных мэтаў. З аднаго боку, мы хочам пазнаёміць вас з галінамі навукі, якім, на нашу думку, належыць вырашальная роля ў пачатку наступнага стагодзьдзя. Таму тэмамі рубрык *«Тэма»*, *«Адным радком»*, *«Кніжная паліца»* стануць найперш *біятэхналёгія, генная інжынэрыя, нанасьвет, зоркі і людзі, чалавек і навакольнае асяродзьдзе, штучны разум, глябалізацыя.* Назавем гэта «абавязковай праграмай».

З другога боку, навука як гульня шкляных пэрлаў ёсьць нечым, што можа выцягнуць да жыцьця фантомы і немагчымасьці, што можа знайсьці чорную котку ў чорным пакоі. Таму рубрыкі *«Абы-што»*, *«Гульня ў пацеркі»* стануць нашай «вольнай праграмай».

Будучыня ствараецца намі, але не для нас. Якой яна будзе? Дзе адбываецца сутыкненьне навукі і грамадзтва? На гэтыя і іншыя пытаньні мы — разам з вамі — паспрабуем адшукаць адказ на гэтай старонцы. ■

адным радком

**В**а ўнівэрсытэце Арызоны (ЗША) для дасьледаваньня Марса распрацаваны прататып чатырохногага робата, названага Birod (Biomorphical Robot with Distributed Power)

**У Нямеччыне** знойдзены размаляваны камень, які датуюць 13 000 г. да н.э.— гэта першая знаходка тут наскальнага маляўніцтва

**Крэмы для тлустай скуры** выклікаюць зморшчыны

**Адкрытыя два бялкі**, якія, на думку мэдыкаў, вінаватыя ў захворваньні на артрыт

**Мужчыны, якія ўжываюць каву**, менш хварэюць на камяні ў нырках

**Звараная гародніна** (морква, брокалі, шпінат) лепш абараняе ад раку і сардэчных захворваньняў, чым сьвежая ■

чытаньне ў дарозе

Натальля БАБІНА

# Людзьмі звацца...

***Немига литературная, №1/99, №2/99. Літаратурна-мастацкі часопіс, выд. з 1999 г. Наклад 1000 ас.***



Паспаліты чытач пра новае выданьне ня ведаў. Я пабачыла яго на паліцы «Саюздруку» выпадкова — трэ было набыць чытанку ў дарогу. Двух нумароў якраз хапіла на пяць гадзінаў язды.

Кошт літаратурнага часопісу спрыяў набыцьцю: першы нумар — 100, другі — 200 тысяч. Нязабаве ў Берасьці я пабачыла ўжо й другі нумар за зьніжаную цану — за 100. Такая цэнавая палітыка, мо й не прывучвае чытача плаціць за культуру, затое спрыяе таму, каб увесь невялікі наклад разышоўся. Напэўна, заснавальнік выданьня, недзяржаўны Інстытут сучасных ведаў, нябедны.

Часопіс выдаецца расейскай мовай і, як зазначыў у маніфэсьце галоўны рэдактар Анатолій Аўруцін, зьбіраецца «публікаваць усё лепшае, што ствараецца ў рэспубліцы па-расейску», аддаючы свае старонкі таксама тым з расейскіх пісьменьнікаў, якія «ня вельмі ўтульна» пачуваюцца цяпер у іншых рэгіёнах былога Саюзу. У маніфэсьце адчуваецца глыбокая крыўда на тое, што няма цікавасьці ў Беларусі да творчасьці расейскамоўных пісьменьнікаў, што часопісы выдаюцца выключна на беларускай, дзяржаўныя выдавецтвы друкуюць толькі па-беларуску... Цікавы фэномэн: дасюль манаполію скаргаў на нядолю і заклінаньняў аб праве «людзьмі звацца» трымалі беларускія пісьменьнікі, цяпер, значыцца, трэба ім пасунуцца і даць месца і расейскім.

Тлумачачы выбар назвы, Анатолій Аўруцін параўноўвае лёс ракі Нямігі, якую ўзялі ў трубу і пусьцілі пад зямлёй, зь лёсам мясцовай расейскамоўнай літаратуры ў Беларусі, якая, паводле ягоных словаў, заўсёды лічылася ў нас другаснай...

Я злавіла сябе на думцы, што такі выбар назвы характэрны для людзей прыежджых — як вынікае з кароткіх зьвестак пра аўтараў, такіх сярод аўтараў «НЛ» працэнтаў 95. Пэўна, карэнныя менчукі, ці, прынамсі, людзі, абазнаныя ў рэаліях Менску, хучэй назвалі б свой часопіс «Пярэспа» або «Доўгі Брод», або «Людамант» — выбралі б словы цёплыя, прывязаныя да канкрэтных, поўных жыцьцёвага віру месцаў... Наўрад ці яны скарысталі б выразы «с брегов Немиги величавых», «негоже эту славную красавицу гноить в подземелье», бо памяталі б, што рэчка заўсёды была вельмі сьціплых памераў і нагадвала больш ручаіну, што пах у раёне Нямігі стаяў вельмі спэцыфічны, а мо й памяталі б, як выглядала яна на Грушаўцы, ля чыгункі і навагарамонтнага заводу і да скрыжаваньня Яўрэйскай (цяпер Калектарнай) і Нямігі, дзе пачынаўся калектар, перагароджаны вялікімі кратамі... Цікава, што менчукі, калі казалі «Няміга», мелі на ўвазе ня рэчку і нават ня вуліцу, а вялікі раён — лябірынт вуліц і завулкаў, дзе лёгка было заблудзіцца. Потым тут было яўрэйскае гета... Але гэта мае асабістыя заўвагі, яны ня маюць прамога дачыненьня да зьместу часопісу.

Што ж тоіцца пад сьціплымі белымі вокладкамі новага выданьня?

Безумоўна, часопіс не пусты. Тут і больш, і менш удалыя творы, але ў цэлым ёсьць што пачытаць — а гэта галоўнае. Нешта падасца цікавейшым, нешта марнейшым — гэта ўжо справа асабістага густу.

Як на мой густ, да найбольш удалых можна залічыць раман-кроніку Яўгенія Таганова «Слово о Сафари» — гэткую сучасную ўтопію, увасабленьне блакітнай мары тых шматлікіх шабашнікаў, што ў недалёкім мінулым былі «белымі каўнерыкамі», але вымушана перайшлі на фізычную працу і сталі ўдала рабіць эўрарамонты. Нельга сказаць, што раман прыцягае хватка закручанай інтрыгай або глыбокім псыхалягізмам (ён крышачку нагадвае кінасцэнар), але тэма новая й нязьбітая, а напісана сьвежа, моцна і добрай расейскай мовай.

Запомнілася апавяданьне масквічкі Сьвятланы Васіленкі «Русалка с Патриарших прудов» — найперш несацрэалізмам на тле іншых апавяданьняў «НЛ».

Бадай, не маглі не прыцягнуць увагі ўспаміны Ўладзімера Шэліхіна пра зорак опэры і балету, зь якімі сутыкала яго жыцьцё — цёплыя фразы, калі чытаеш, нібыта агучваюцца прыгожым голасам аўтара, так добра вядомым нам праз радыё.

Вершы, якіх на старонках часопісу шмат, можна ахарактарызаваць адным словам — вершы. Вылучыць жа нешта не выпадае.

Што да няўдач, дык да іх можна аднесьці «Дневник далекого года» Эдуарда Скобелева. Мне наогул не па душы мода, якая апошнім часам апанавала літаратараў — друкаваць дзёньнікі. Калі ўзяўся за гуж, дык і пішы аповесьці ды апавяданьні, выдумляй сюжэты, падганяй фантазію. Нашмат прасьцей, вядома, з глыбакадумным відам апісваць надвор'е, што стаяла ў далёкім годзе, але ці варта гэткі паўфабрыкат выносіць на людзі? Дзёньнікі цікавыя тады, калі за імі стаіць асоба безумоўна вядомая (адзін з графаў Талстых, прыкладам, або эвэнтуальны палюбоўнік ангельскай каралевы, або Айнштайн, скажам, або Шумахер). У іншых жа выпадках публікацыя часьцяком (хаця не заўсёды) выглядае сумнеўна. Азнаёміўшыся зь дзёньнікам Э.Скобелева, я добрыя тры дні дратавала хатніх і знаёмых пытаньнем: «А ты памятаеш што-небудзь з твораў Скобелева?» Адказу не было. Нарэшце адзін з знаёмых кампутаршчыкаў, які мае фэнамэнальную памяць, адарваўшыся ад экрану, прыгадаў, што так, у студэнцкія гады трымаў у руках нешта «пра масонаў». На гэтым маё знаёмства з творчасьцю Скобелева і скончылася. Фразы зь дзёньніка «В зимние сумерки, не зажигая света, любо посидеть у окна...» ды «Коснешься душою, а после потеряешь — этого жаль» ня выклікалі жаданьня пярэмутам ляцець у бібліятэку, каб азнаёміцца зь пераліčанымі ў рэдакцыйнай рэкамэндацыі раманамі...

Застаецца падзякаваць калектыву новага часопісу за цікавае чытаньне і пажадаць шанцунку ў пошуках талентаў і фінансавай стабільнасьці. Сапраўдная літаратура застаецца літаратурай на любой мове.

# Вершы зваротнага шляху

***Александр Ризо. Последний лирик: Вершы. — Менск: ИП «Экоперспектива», 1999. — 166 с. Наклад 1000 ас.***



Адна з найбольш прыемных кніжак, якія трапілі мне ў рукі ў апошні час — зборнік вершаў берасьцейскага паэта Аляксандра Рызо, выдадзены менскім выдавецтвам пры ўдзеле газэты «Брестский курьер».

Вершы Аляксандра Рызо ў большасьці сваёй напісаныя ў характэрным памеры — падобным да тыповага памеру Бродзкага. Падобным да такой ступені, што спачатку гэта нават раздражняе, аж пакуль не зразумееш: гэта сьвядомы выбар аўтара, для якога Бродзкі — ідэал і амаль што Бог. Што ж, можа аўтар і мае рацыю.

Вершы Аляксандра Рызо вельмі арганічныя для Берасьця — гэтага чалавечага катла, увасабленьня мяшчанства ў лепшым сэнсе слова, гэтай клубнічнай Мэккі і абрыкосавай Мэдыны, з такім трагічным лёсам, са зруйнаваным целам, абсалютна апалітычнага і вельмі жыцьцястойкага. Лепшымі мне падаліся радкі, якія якраз зьвязаныя або навеяныя Горадам, або, як кажуць у нас пад Берасьцем — *містом*. Не магу не прывесьці цалкам невялічкага вершу «Вигилия (Брест-Литовские мотивы)». Вігілія, нагадаю — гэта вячэра перад Раством або наогул вечар перад сьвятам.

С уверенностью метронома
отсчитывает дни декабрь.
Зеркальный карп насосом своих жабр
еще качает воду, добывая кислород,
он участи своей не знает наперёд,
что станет блюдом на Рождественском столе
в соседстве с дичью, ананасами, желе,
доставив радость взрослым, детворе
и стае кошек на заснеженном дворе,
урчащих в предвкушении еды,
летящих прочь от красочной звезды,
что носят мальчики в дни Коляды,
их пение растопит даже льды,
не то что чуткие сердца мещан,
усатых дядек и прекрасных панн.
В глазах угадывается натиск слёз –
игра для взрослых начинается всерьёз,
их окуная в омут ностальгии,
где брезжит свет и мягкий снег Вигилий.

Што такое талент паэта — уменьне складаць рытмічныя радкі ці бачыць выпраменьваньне той часткі спэктру, якая невідочная іншым?

Трохі замінаюць успрыманьню толькі штампы, якія прапусьціў аўтар і якія сюд-туд мільгаюць сярод трапных радкоў (святая мать, истина святая, гордые славяне і да гэтага). Але й гэтыя штампы такія арганічныя для берасьцейскага мысьленьня. І яшчэ цікава: з сымпатычнымі «Историческими миниатюрами» мяжуе сумнеўны «Имперский синдром». Тут не ўтрымаешся, каб не працытаваць любімага паэтам Бродзкага:

Пусть и вправду, Постум, курица не птица,
но с куриными мозгами хватишь горя.
Если выпало в Империи родиться,
лучше жить в глухой провинции у моря.

А яшчэ вершы Рызо выклікаюць добрае ўражаньне лёгкасьці і ненапругі: проста гаворыць чалавек пра тое, аб чым думае, ліецца мова, ствараецца настрой — блізка, вельмі блізка гэта да таго, што звыклі акрэсьліваць яшчэ адным штампам — «сапраўднай паэзіяй».

■

новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Зямная дарога ў вырай: Беларускія народныя прыкметы й павер'і. Кн. 3/ Уклад. і прадм. У. Васілевіча. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 654 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-02-0206-8

*Як убачыць праўдзівы сон? Як адвесьці злыя чары? Як варажыць? На гэта дае адказ новая кніга дасьледніка беларускага фальклёру Ўладзімера Васілевіча. Яна складаецца з наступных разьдзелаў: варажба, чарадзейства, знахарства, народны соньнік, міталёгія. Апошняя частка — грунтоўна перапрацаваная й дапоўненая шматлікімі невядомымі дагэтуль зьвесткамі кніга таго самага аўтара «Міты Бацькаўшчыны» (Менск, 1994). Кніга пераконвае, што наша міталёгія не бяднейшая ад грэцкае.*

Лук'янаў М. І цемра адступіла...: Аповесьці, апавяданьне. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 254 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-02-0336-6

Мележ І. Людзі на балоце: Раман з «Палескае кронікі»/ Прадм. Г.Шупенькі. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 399 с. — (Школьная бібліятэка) — Наклад 19620 ас. ISBN 985-02-0233-3

*Беларускі савецкі бэстсэлер наперадзе большасьці беларускамоўных кніг паводле свайго накладу, бо прызначаны для школьнай праграмы.*

Навуменка І. Любімы горад: Аповесьць, апавяданьні. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 222 с. — Наклад 1300 ас. ISBN 985-02-0211-4

Памяць: Гістарычна-дакумэнтальная кроніка Шклоўскага раёну. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1998. — 510 с. — Наклад 8000 ас. ISBN 985-09-0250-7

*«Дажынкі-99» будуць сьвяткавацца ў Шклове, з нагоды чаго й выдадзеная чарговая кніга сэрыі «Памяць». Кнігі з гэтае «залатое» краязнаўчае калекцыі ніколі асабліва не вылучаліся сваёю ўвагаю да помнікаў мінуўшчыны дакастрычніцкай. Затое заўжды адшукаецца месца для выбітных постацяў сучаснасьці, напрыклад, ППРБ, пра якога Эдуард Скобелеў напісаў дзьвюхпалосны нарыс-гімн. Яго варта траха пацытаваць: «А.Л. — прыхільнік урэгуляваньня ўсіх спрэчных праблемаў дыпляматычным спосабам і прававымі мэтадамі... А.Л. непрымірыма ставіцца да дэмагогіі, кан'юнктуры, безуважнасьці да лёсу свайго народа... У чым сакрэт аўтарытэту беларускага прэзыдэнта? У ягонай сумленнасьці й адкрытасьці, мабільнасьці й сталай гатовасьці без дэмагогіі абмяркоўваць зь людзьмі кожную праблему. Моц беларускага прэзыдэнта — у ягонай адданасьці народу; чалавек вялікае энэргіі, А.Л. імкнецца асабіста разабрацца ў кожнай праблеме. Для яго ня маюць значэньня догмы нейкае палітычнае партыі. Ягоны арыенцір — нацыянальныя інтарэсы Беларусі. Ягоная палітычная партыя — народ Беларусі».*

Лысенко П. Туровская земля 9—13 в. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 268 с.: іл. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-08-0096-8

*Разглядаецца фармаваньне й разьвіцьцё Тураўскай зямлі, ейная этнічная гісторыя, фармаваньне тэрыторыі, паўстаньне й разьвіцьцё гарадоў і сельскіх паселішчаў, эканамічнае й гаспадарчае жыцьцё ў раньнім сярэднявеччы. Кніга багата ілюстраваная рысункамі й фотаздымкамі.*

**Чытаў кнігі Віктар Мухін**

# Пакутнікі Беразьвечча



У Беластоку па-польску выйшла кніга «Пакутнікі зь Беразьвечча». Выданьне складаюць тэксты, якія тры гады раней друкаваліся ў віленскай газэце «Znad Wilii». Аўтар — ксёндз Тадэвуш Крагель — шмат гадоў прысьвяціў дасьледаваньню лёсаў сьвятароў, што загінулі ў апошнюю вайну. На Віленшчыне з 1939 па 1944 г. загінула звыш 100 сьвятароў. У кнізе распавядаецца і пра трох беларускіх ксяндзоў, што былі закатаваныя ў Беразьвецкім лягеры сьмерці, які ў былым кляштары зрабілі савецкія ўлады: Уладыслава Мацькавяка, Станіслава Пыртка і Мечыслава Багаткевіча. Яны адмовіліся пакінуць вернікаў і загінулі разам зь імі. Цяпер яны, як пакутнікі за веру, бэатыфікаваныя каталіцкай царквою. Апроч таго, у кнізе распавядаецца і пра іншых пакутнікаў Беразьвечча. Савецкімі ўладамі тут было забіта звыш 4700 тутэйшых людзей. А пасьля ўжо гітлераўцы закатавалі тут 27000 асобаў з розных краінаў. Беразьвецкі лягер дзейны ў Беларусі й сёньня — там калёнія строгага рэжыму.

Адзінае, пра што ня згадваецца ў кнізе, што першы канцэнтрацыйны лягер на гэтым месцы стварылі палякі — у 1921-24 г. Тады тут катавалі беларускіх удзельнікаў антыпольскай партызанкі.

С.Х.



100 твораў мастацтва XX стагодзьдзя

# Аляксандар Кішчанка. ЧАКАНЬНЕ

Першапачаткова гэтую карціну сам мастак назваў «Партрэт маці»... Напісаны з натуры вобраз вясковае кабеты, не прызначаны для нейкіх выставаў, меў для яго прыватнае, інтымнае значэньне. Ён, тады яшчэ малады мастак, нібы Адысэй, павандраваўшы ды павучыўшыся ў розных кутках шостае часткі сьвету, акрылёны ўласнымі посьпехамі, хацеў давесьці сваё права мастаком звацца. Бадай, для маці гэта была пачэсная роля — пабыць крыху мадэльлю для сына. Як не ганарыцца — выбіўся ў людзі, вучыўся далёка ва Ўкраіне, стаў выкладчыкам у інстытуце ў далёкай Беларусі. Кабета сядзіць напружана, з усёй адказнасьцю разумеючы сваю ролю. Позірк яе зьвернуты проста на гледача. Гледачом у той момант быў сын...

Кішчанка ня лесьціў сваёй маці. Немалады твар, вялікія рукі, вельмі вялікія пальцы, у якіх прападае і сьцізорык, і бульбіна. Уся пастава спрацаванага й моцнага чалавека сабраная ў цёмны абрыс, нібы манумэнт у гонар усіх вясковых мацярок... Адно вочы, чыстыя й спакойныя, ад якіх праменіцца сьвятло, што кладзецца залацістымі блікамі навокал, нагадваюць нам, што гэта жывы чалавек. Яны асьвятляюць сусьвет гэтае жанчыны, простыя рэчы, сьведкаў простага побыту, спрадвечнага ладу...

Кішчанка лесьціў сабе. Міжволі пазнаеш і ягоныя рысы ў гэтым партрэце. І вочы, шырока расстаўленыя, сьветлыя, пад спакойна ўзьнятымі бровамі. На свой кошт ён адносіў і гэты гімн працы, у якім няма месца спакою ні на хвіліну, як тым сялянскім рукам, што ў поўнай нерухомасьці ўсё адно рухаюцца, абіраючы бульбу... Дакладней, вось ён, пункт адліку ягонае нястомнае працы, ягонага пазьнейшага глябалізму. Зрэшты, небеспадстаўна.

Ягоная працаздольнасьць, шырыня творчых захапленьняў былі непараўнальныя. Ягоная слава ў БССР таксама пераходзіла ўсялякія межы савецкага ўяўленьня. Росьпісы ў санаторыі «Беларусь» у Крыме, гіганцкія мазаікі на Юбілейнай плошчы і на гатэлі «Турыст» у Менску, вялізарныя, у 10 паверхаў, пано на дамах у мікрараёне «Ўсход». Сотні жывапісных работаў пазнавальнага «аплікатыўнага» стылю, вывешаных у розных музэях СССР і растыражаваных у маскоўскіх і менскіх альбомах. Асобная рэч — габэлены Кішчанкі. Вядома, габэленавае мастацтва йснавала ў Менску і да яго. Але пры ім габэлен стаў часткаю ідэалягічнага будаўніцтва ў БССР. Вядома, тое, што габэлены рабіў сам мастак, трэба ўспрымаць умоўна. Яны ткаліся дзясяткамі майстрых на габэленавай фабрыцы. Габэлены для ЦК КПБ, выробленыя сумесна зь Міхаілам Савіцкім, прысьвечаныя бальшавіцкім тэмам, і да сёньня вісяць у тым самым будынку. А таксама для тэатраў Менску і Віцебску, для амбасадаў, для гатэльных холаў, аграмадны габэлен — заслона для Тэатру музычнае камэдыі...



**Аляксандар Кішчанка (1933, в. Белы Калодзеж, Расея — 1997, Менск) жывапісец, габеленшчык, мазаічыст. Пэдагог. У 1960 годзе скончыў Інстытут ужытковага й дэкаратыўнага мастацтва ў Львове. З 1963 па 1970 выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Народны мастак Беларусі.**

Асобная старонка ў творчасьці Кішчанкі адкрылася зь незалежнасьцю Беларусі. Ягоны габэлен «Чарнобыль» пабачыў Нью-Ёрк. Гэты габэлен цяпер вісіць у ААН. Самай вялікай кропкаю (15 на 19 мэтраў), у творчасьці Кішчанкі стаў габэлен «Дваццатае стагодзьдзе» вагою ў чвэрць тоны, які й да сёньня няма дзе экспанаваць.

Тым часам, «Партрэт маці» пачаў звацца «Чаканьнем»... Чыім чаканьнем? Ці чакаў Кішчанка, калі, нарэшце, ён зможа пабыць самім сабою, адрынуць бясконцы колазварот бягучых, усё большых замоваў? Ці чакалі яго на радзіме?

Канфармізм — імкненьне да посьпеху ва ўмовах, пры якіх іншага шляху няма. Аляксандар Кішчанка ўсё жыцьцё прагнуў славы й татальнага ўплыву на людзей і дасягнуў сваіх мэтаў, пакуль быў жывы. Па сьмерці плён ягонае творчасьці апынуўся незапатрабаваным. Народны мастак Беларусі, Кішчанка, які ў свой час быў адным з самых заможных людзей краіны, памёр, ледзь зводзячы канцы з канцамі. Дзяржаўны бюджэт ужо не прадугледжвае выдаткаў на дзяржаўных мастакоў. Шмат што зь ягонае творчасьці забудзецца раней, чым ён сам. А «Чаканьне» застанецца, каб згадаць, чым ёсьць канфармізм у творчасьці. Дакладней, дзе ягоная мяжа: да і пасьля...

У райцэнтры Багучар, на радзіме Кішчанкі, у музэі баявое і працоўнае славы, засталася расьпісаная ім заля і габэлен **«Мой родны край»... Ягонае маці** яго гэтак і не дачакалася. Што б сталася, каб ён такі вярнуўся дахаты зь Беларусі? Бадай, пра яго мы б цяпер і ня ведалі...

**Сяргей Харэўскі**

---

Віктар ШНІП

# ТАМ, ДЗЕ ІСЛАЧ БРУІЦЦА...

*Там, дзе Іслач між сосен бруіцца,*
*Можна выпіць і можна напіцца*
*І ў траве, як сабаку, сканаць,*
*І ніхто не зьбярэцца шукаць.*

Радкі крыху сумнаватыя, але мае 10 дзён у Доме творчасьці «Іслач» праляцелі як адзін дзень.

***

Зь дзецьмі пайшоў пад Ракаў, дзе раней ля дарогі прыкмеціў невялічкае азярцо. Яно абнесена высокай жалезнай агароджай, але дзірак хапае. На беразе куча дзяцей. Некаторыя з чырвонымі піянэрскімі гальштукамі. Чамусьці ўспомніліся віетнамцы. Я не пасьпеў памачыць руку, як над сабой пачуў голас: «Здесь такое дзела. Вам здесь не палагаецца. Здесь зона лагера». Перада мной у чорнай форме з дубінкай стаяў амонавец. Малады, зусім хлапчук. «А дзе можна?» «А вот там, на другом берегу».

***

У лесе за рэчкай — піянэрскія лягеры. Кожны вечар да паловы адзінаццатай у іх дыскатэка. Песьні кожны дзень адны і тыя ж. Расейскія. Чуеш іх і, гледзячы на сосны, адчуваеш сябе ў далёкай сібірскай тайзе, зь якой у Беларусь нікол не вернесься...

***

Выбраліся ў Ракаў. Магазіны ці то зачыненыя, ці то на пераўліку. Нават у шапіку не змаглі купіць газэтаў. Праўда, два магазіны працавалі — у адным гарэлка, а ў другім — хлеб. Купілі ёмістую пляшку мінэралкі «Фрост» за 87 тысяч, а ў Менску яна каштуе 105. З гэтай пляшкай вырашылі зазірнуць да мастака Фэліка Янушкевіча. Адчыніла палац (інакш і нельга назваць камяніцу) маладая гаспадыня, якую я не адразу заўважыў, бо ў паўзмроку перад намі сярод пакоя (карціннай галерэі) стаяў высозны гіпсавы Адам Міцкевіч працы Валяр'яна Янушкевіча. Фэліка не было дома, але на нашы галасы прыйшоў голенькі хлопчык — ягоны сынок. Разгубленую гаспадыню мы ня сталі доўга турбаваць і пайшлі да Язэпа Янушкевіча. Хата ягоная, як амаль ва ўсіх ракаўцаў, але прыкметная — на варотах намаляваны беларуская нацыянальныя сымбалі. Сустрэў нас руды сабака. Праз хвілю на ягоны брэх выйшаў Язэп з тоўстым польска-расейскім слоўнікам. Язэпу не было асабліва калі гаварыць з намі, і мы пайшлі да майго дзядзькі Пашкі. А ён якраз у гэты дзень пасьвіў кароў у радоўцы. Мінэралку давялося піць самім.

***

Сабраліся на экскурсію ў Івенец. Селі ў невялічкі аўтобус. Адна з жанчын, агледзеўшы транспарт, сказала: «Я думала, што тут будзе Ікарус», а на такіх я ежджу толькі на пахаваньні».



Па дарозе да Івенцу праяжджалі месца, дзе два гады назад прайшоўся буран — адны пні засталіся ад вялізарнага, у некалькі кілямэтраў, кавалку лесу.

У Івенцы цэнтральная вуліца перакрытая — рамонт. Наша кіраўніца канстатавала: «Готовятся встречать Алексея Григорьевича...» «Аляксандра», — амаль хорам яе папраўілі ў аўтобусе, але яна не зьбянтэжылася.

Першае, што ўбачылі ў горадзе — высокі прыгожы будынак, на чырвоным даху якога выкладзена белай чарапіцай «Жыве Беларусь». Будынак належыць прадпрыемству «Крыніца». Кажуць, што той-сёй загадваў зафарбаваць, але дах зроблены зь нейкай чарапіцы, на якой не трымаецца фарба.

Наведалі керамічную фабрыку. Зайшлі ў Дом мясьніка, дзе апошнія дзесяцігодзьдзі — музэй Жалезнага Фэлікса. Адно, што ў ім запамінаецца амаль усім і на што больш зьвяртаюць увагу экскурсанты, — чорт працы Апалінара Пупко.

***

Былі ў Ракаве на сьвяткаваньні 3 ліпеня. Мерапрыемства праходзіла ля помніка, дзе пахавана 45 салдатаў. Вэтэранаў вайны было чалавекі тры, і тыя губляліся сярод дзятвы. Казалі, што былі б і ўсе вэтэраны, калі б ім, як на Дзень Перамогі, давалі тут грошы, а так ніхто самахоць не прыйшоў.

***

Угаварылі мяне зь Людмілай на вечарыну для адпачываючых. Мы ім пачыталі вершы, расказалі пра «ЛіМ» і «Нашу Ніву». Адна з прысутных у свой час вучылася з паэтам С. Верацілам. Цяпер па-беларуску не гаворыць, але любіць беларускую паэзію. Гаварылі паўтары гадзіны, і недзе пад канец сустрэчы ў залі прагучала пытаньне, выказанае з аптымізмам у голасе: «Дык што? Беларусь жыве?»

***

Бацюшка Аляксандар з Ракаўскай царквы сам наведаў нас. Малады, гадоў пад трыццаць, не валасаты, з узнагародным бліскучым крыжам. Прагаварылі зь ім ажно тры гадзіны. Парасейску. Мне гэта не падабалася, але маўчаў, паважаючы сьвятара. Калі сустрэча закончылася, Людміла падышла да бацюшкі зь нейкім пытаньнем. І тут высьветлілася, што бацюшка выдатна валодае беларускай мовай. А я думаў, што ў Ракаўскай царкве ўжо амаль два гады сядзіць нейкі магамэт...

***

Апошні дзень у Доме творчасьці. Купальле. З-за ракі зь піянэрскага лягеру з самай раніцы загучалі «Песьняры» зь некалькімі беларускімі песьнямі. Вечарам пайшлі да піянэраў на сьвята. Дзеці танчылі пад песьні «Палацу».

*Там, дзе Іслач між сосен бруіцца,*
*Можна з краляй на ноч заблудзіцца,*
*Можна ў Доме, як вязьню, сядзець*
*І ў вакно, бы ў Эўропу, глядзець...*

*Дом творчасьці «Іслач», 27.06 — 7.07.99 г.*

# СУАЙЧЫНЬНІКІ-5

Адам ГЛЁБУС



### КАРАТКЕВІЧЫ

Спытай у мяне, што агульнага ў паводзінах Уладзімера й Вольгі Караткевічаў. Адкажу. Жаданьне быць лепшым за ўсіх навокал. Памкненьне ў аўтобусе «Лельчыцы—Менск» ці «Ворша—Віцебск» паводзіць сябе, як узброены арыстакрат XVIII стагодзьдзя. Наіўна. Скажаш. А мне падабаецца.

### АСТАШОНАК

Апавядальнік Алесь Асташонак вырашыў зрабіць «п'яную кнігу». Ён піў і пісаў, пісаў і піў... Цяпер, са словаў ягонае першае жонкі, адно п'е й нічога ня піша. Кніга апавяданьняў пра п'яніцаў так і пабачыла сьвет. Пэўна, каб напісаць, адрэдагаваць і выдаць «п'яную кнігу», трэба стаць крыштальна цьвярозым.

### ЦЭСЬЛЕР З ВОЙЧАНКАМ

Рэклямшчыкі Цэсьлер з Войчанкам вырашылі стварыць аб'ект стагодзьдзя й прадаць яго за мільён даляраў. Аб'ект складаецца зь яек, кожнае ў стылі якога-небудзь геніяльнага мастака кшталту Далі ці Маякоўскага. Напэўна, каб гэтыя яйкі сапраўды зрабілі Далі з Маякоўскім, яны б разам і каштавалі мільён, а яйкі Цэсьлера з Войчанкам — гэта толькі яйкі Цэсьлера з Войчанкам. Зрэшты, галоўнае ёсьць мара: зрабіць твор, прадаць і набыць дом.

### ЯЗЕРСКАЯ

Теледыназаўр Элеанора Язерская скляпала перадачу з рамансаў на вершы Пушкіна. Са слоў Элеаноры: цар абыходзіўся з Пушкіным, найвялікшым паэтам усіх часоў і народаў, як з прыгожым і драпежным зьверам. Я не шаную Пушкіна, але ён, як ні круці, ня зьвер. Можна, канечне, мець перакананьні зацятага дарвініста й залічваць чалавека ў сьвет жывёлаў, але тады мусяць узьнікаць сумлевы наконт найвялікшага паэта ўсіх народаў, бо найвялікшы леў — гэта леў, а найвялікшы мамант — мамант, і дыназаўр ня можа быць найвялікшым сярод брантазаўраў і пэрадактыляў. Зрэшты, Язерскую Элеанору гэта абыходзіць, бо яна найвялікшая тэлевядучая на беларускім канале.

### АЛЕКСІЕВІЧ

Калі згадваю трагедыю ў менскім мэтро на станцыі Нямігa, пад час якой у цісканіне загінула пяцьдзясят тры чалавекі, чамусьці думаю ня толькі пра ўдзельнікаў і ахвяры, а й пра людзей, што навучыліся выкарыстоўваць падобныя падзеі. Адным зь бясспрэчных лідэраў у карыстаньні зь беларускіх трагедыяў і жахаў зьяўляецца Сьвятлана Алексіевіч. Яна паймела славу й грошы з другой сусьветнай вайны, з выбуху ў Чарнобылі, з узброенага канфлікту ў Аўганістане, з самагубстваў... І зусім ня хочацца, каб яна пачала абмалёўваць менскую звалку-99. Хай хто іншы, наіўны, нявопытны... Толькі не яна.

У дзяцінстве я бачыў дзяўчынку, якая абтрасала з дрэваў хрушчоў і засоўвала іх у бутэльку. Тую бутэльку, поўную прыдушаных жукоў, дзяўчынка ўсім паказвала й гаварыла, што выратавала сотні лісьцікаў. Ды нічога яна ня выратавала, яна задушыла дзясяткі травеньскіх жукоў дзеля ўласнай асалоды.

Кампазыцыйна кніжкі Алексіевіч нагадваюць піўныя бутэлькі зь ледзь жывымі, перапэцканымі ва ўласны гной жукамі.

### МІХАЛОК

Калі на рок-сцэне зьявіліся пачварныя блазны кшталту Сяргея Міхалка з гуртом "Ляпис Трубецкой", я значна абмежаваў сваю прысутнасьць на канцэртах. І меў рацыю. Слухачы меnавіта такой постсавецкай папсы загінулі ў падземным пераходзе. Чаму так думаю? А таму, што на пытаньне часопісу «Playboy»: "А што выраблююць твае прыхільніцы на канцэртах?" — чараваты Ляпіс №1 адказаў: "Ды паказваюць тое, што могуць. Калі нап'юцца моцна, дык сядаюць да свайго пацана на шыю й цыцкі паказваюць. Пацан не бачыць, дурань. Не каб яе скінуць. Скінуў бы й затаптаў...". І затапталі 42 дзяўчыны. А кіраўнік групы "Манго-Манго", пасьля выступу якой здарылася няшчасьце, абяцаў прыехаць да нас яшчэ. ■

Славамір АДАМОВІЧ

***

*Прысьвячаю Сваім*

*Пакуль я пісаў пра Альжыр,*
*вайна прыйшла на Балканы,*
*хвост распусьціла веерам*
*бомбамэталу цяжарнага*
*і, як прастытутка сусьветная,*
*ракетным стабілізатарам*
*узвыла над Македоніяй,*
*а скончыла дзесьці пад Менскам.*
*Паслухайце вы, штатныя,*
*штацкія і ваенныя,*
*мне гэта не падабаецца,*
*не будзіце ўва мне зьвера*
*(пакуль яшчэ сьвет трымаецца*
*на шчырасьці і даверы).*
*Ня возьмеце крэйсэрскай хуткасьцю,*
*ні нават адчаем штрафбатаў*
*над нашаю Мачу-Пікчу**
*сьцяг свабоднай Рэспублікі.*

**Старажытная крэпасьць інкаў, пабудаваная на вяршыні гары.*

Васіль Быкаў

# ХУТАРАНЦЫ*

*Хрэстаматыйная казачка для маленькіх*

Пад лесам жыла сямейка. Не багата і ня бедна, дзень і ноч працавала, бяз хлеба ня ела. Зямлі было няшмат, але клопату сямейцы хапала. Сьпярша поле апрацоўвалі бацькі зь дзедам, пасьля, як памёр дзед, — бацька з маткай. Пакрысе падрасьлі сыны — Янка і Васіль, упраўляцца стала лягчэй, і хутаранцы былі задаволеныя.

Нeяк на пачатку восені, калі, павячэраўшы, сямейка зьбіралася класьціся спаць, у дзьверы пастукалі. Госьцяў у хаце не чакалі, але бацька мусіў адамкнуць дзьверы, — ці мала каму выпала пільніца па начы. Увайшоў сьціпла, хоць і прыстойна апрануты чалавек, сеў на лаве, закурыў гарадзкую папяросу. І пачаў гаманіць. Аказалася на дзіва гаманкі, дасюль у тутэйшых мясьцінах такіх не трапляла. Увесь сэнс ягонай гаманы палягаў у тым, што хутаране жывуць незаможна, бадай, кепска, адстала, і трэба інтэгравацца. Гэта значыць, далучыцца да недалёкай вёскі. Гаспадары недаўменна ўтаропіліся ў чалавека — ужо яны ведалі, як жывуць у суседняй вёсцы. Кожны вясны адтуль прыбягалі на хутар то па кошык бульбы, мерy збажыны, а то пазычыць капейчыну ці ўзяць каня прывезьці дровы. Яны так і сказалі захожаму. А той — сваё. Трэба інтэгравацца, бо іначай не выпадае, увесь сьвет інтэгруецца, трэба сіла, каб супрацьстаяць таму сьвету. Хутаранцы маўчалі, яны не разумелі, чаму трэба супрацьстаяць сьвету? Калі тая бязглуздая гутарка добра надакучыла, гаспадар сказаў, што сям'і трэба класьціся спаць, заўтра шмат працы ў полі, хай бы чалавек ішоў, адкуль прыйшоў. Чалавек устаў з лавы, але доўга яшчэ балбатаў у парозе, яны ледзьве выбавіліся ад яго. Як ён пайшоў, матка перахрысьцілася і кажа: «Гэта ж д'ябал! Яй Богу! У яго ж хвосьцік ззаду...» Гаспадар і хлопцы падзівіліся з тых матчыных словаў — яны не прыкмецілі ніякага хвосьціка. Але ўсё магло быць...

Наступны вечар усё ў той жа час у дзьверы зноў загрукалі — ды ўжо мацней, нават нібы абурана. Бацька не хацеў адчыняць, але хлопцы сказалі: хай! Зноў увайшоў той самы, ранейшы захожы і зноў пачаў тое самае. Трэба інтэгравацца, бо будзе кепска, а аб'яднаўшыся, будзе лепш. Яны ўсе неўпрыкмет узіраліся пад ягоную апратку — ці не высунецца дзе хвосьцік. Але не, нічога нідзе ня высунулася. Недзе блізка ля поўначы ледзьве выбавіліся ад яго, і маці заплакала — зноў яна бачыла хвосьцік. Мужчыны ня ведалі, што і думаць.

Дачакаўшыся ранку, гаспадар узяў у сьвіране чорнае хварбы і на ўсіх дзьвярох намаляваў невялікія крыжыкі. Маці супакоілася: калі то д'ябал, дык пад крыжыкі ён ня ўвойдзе. Са страхам і надзеяй пачалі чакаць наступнай начы.

Вечар мінуў спакойна, ніхто ня стукаў. Трохі яшчэ счакаўшы, сямейка паклалася спаць. Ды яшчэ ня ўсе заснулі, як у падваконьні штосьь грукнула. Бацька зьлез з палацяў, засьвяціў лямпу. На покуце ўжо сядзеў той самы чалавек. Вакно за ім было выстаўлена знадворку, і ў хату дзьмуў вецер.

— Я наконт інтэграцыі, — спакойна пачаў знаёмую песьню захожы.

— Прэч! — крыкнуў бацька.

Тут ускочылі сыны, сталі поплеч з бацькам. Матка воддаль заплакала. Захожы цепнуў плечуком і нібыта з затоенай крыўдай вылез праз вакно назад.

Рэшту тае начы хутаранцы ня спалі, а як настаў ранак, пачалі мацаваць засаўкі на дзьвярох, мацней прыбівалі вокны. Бацька сказаў, што трэба будзе ў горадзе замовіць аканіцы. Вядома, дорага, але без аканіц не абысьцися.

Наступная ноч прамінула спакойна, ніхто ня стукаў, ня лез у хату. І сямейка патроху супакоілася. Па аканіцы ў горад гаспадар вырашыў паехаць пасьля, як зьвязе з поля снапы.

Але яшчэ праз дзён пару ноччу раптам спалохана крыкнула матка — абодва сыны разам ускочылі, Васіль уключыў электрычны ліхтарык, які надоечы купіў у сельмагу. Матка, плачучы, паказвала ў печ. Сапраўды, там штосьць адбывалася, чуўся невыразны шорах. У печы на тую пару не палілі, ежу гатавалі ў двары пад паветкай. Але нейкі дзіўны шум-шоргат мкнуў з чалесьніку, і хутаранцы напалохана чакалі. Аж неўзабаве бразнула засланка, з грукатам зваліліся на падлогу, і зь печы выкараскаўся ўсё той жа, перапэцканы сажай, чалавек. Вылезшы, моцна чыхнуў два разы, працёр вочы.

— Я наконт інтэграцыі...

— Заб'ю! — зь лютасьцю мовіў гаспадар і схапіў з-пад лаўкі сякеру.

Але ў яго за кашулю ўчапілася матка, сыны схапілі ў качарэжніку вілы. Незнаёмы прыгладзіў вусы і ціхенька захіхікаў.

— Нікуды вам ня дзецца, то гістарычны працэс...

Бацька вырваўся з рук маткі, замахнуўся сякерай. Але ў той момант чалавечая істота зьнікла, бы шмыганула пад печ, дзе ўзімку сядзелі куры. Калі Васіль пасьвяціў туды ліхтарыкам, дык там ня ўбачылі нікога. Чалавек зьнік. Тады ўсе паверылі маці, што то быў не чалавек. Мабыць, сапраўды д'ябал. Але ўсе ведалі, што д'ябла ні ўпрасіць, ні напалохаць немагчыма.

Рэшту тае начы сямейка ня клалася спаць, чакала. І ня ведала, што рабіць. Было зразумела, што хрысьціянскі крыжык на дзьвярах іх не ўратуе.

Ажно на золку старэйшы з сыноў Янка сказаў, што ён ведае антыд'ябальскі сродак. Надзеў шапку і пайшоў у горад.

У паўдзён ён вярнуўся з аршынам каляровае матэрыі. На дрывотні змайстраваў спрытную дзяржажку. Атрымаўся прыгожы сьцяг, які тры мужчыны прыбілі да вугла. Вецер адразу падхапіў яго і разгарнуў ва ўсю даўжыню — сьцяг узрадавана затрапятаўся.

— Цяпер хай прыйдзе! — сказаў Янка.

І праўда, з таго часу прывязьлівы незнаёмец ні разу не завітаў на хутар, аздоблены бел-чырвона-белым сьцягам.

*7 студзеня 1999 г.* ■

**Гэты твор Васіля Быкава быў надрукаваны ў «Нашай Ніве» 14 чэрвеня са значнымі мэханічнымі пашкоджаньнямі. Мы шчыра перапрашаем аўтара і чытачоў і паўтараем тэкст у поўным выглядзе.*

**Рэдактар**

піва за Беларусь

# МУЖЧЫНЫ ЛЕПШ ЛЮБЯЦЬ СЬВЕТЛАЕ ПІВА, А ЖАНЧЫНЫ – ЦЁМНАЕ

Аляксандар КУДРЫЦКІ

***Конкурс "Піва за Беларусь" выявіў, што беларусы найбольш любяць напоі менскай "Крыніцы". Наш карэспандэнт завітаў да інжынэра-тэхноляга бровару. Гутарка ішла за бутэлькай халоднае "Крыніцы-1". На жаль, ён не захацеў, каб мы пісалі ягонае імя (і гэта вельмі тыпова для беларусаў), маўляў, ён не высокі начальнік, а звычайны працоўны, і тое, што ён расказаў, мог бы расказаць любы іншы работнік "Крыніцы".***

**– Мы ўсе п'ем піва, але далёка ня кожны ведае, як яго выробляюць. Хоць раней шмат хто ў Беларусі ўмеў варыць піва (тут згадваецца і цудоўны Караткевічаў верш "Заяц варыць піва").**

– Першая стадыя – соладарашчэньне. Ячмень падсушваюць, а затым прарошчваюць у адмысловых умовах на градах і высушваюць у солад. Солад бывае розны – сьветлы, цёмны, карамельны. Часам да яго дадаюць рыс, цукар, кукурузу (гэта, праўда, на Захадзе, у нас – рэдка). Потым на працягу сутак варыцца сусла, якое затым ахаладжваецца і фільтруецца, шэсьць-сем дзён бродзіць і даброджвае ад васямнаццаці да пяцідзесяці дзён у залежнасьці ад гатунку.

**– Нашы чытачы назвалі лепшым менавіта цёмнае піва. А ў чым розьніца паміж цёмнымі і сьветлымі гатункамі?**

– Цёмныя і сьветлыя півы гатуюць па-рознаму. Сьветлае піва зварыць трохі лягчэй. Пры вырабе цёмнага піва за кошт падвышэньня тэмпэратуры ідзе рэакцыя карамелізацыі. Той, хто калі-небудзь варыў цукар, ведае, што на агні ён патроху жаўцее, а потым увогуле цямнее. Нешта падобнае адбываецца і зь півам. Менавіта з-за карамелізацыі піва атрымлівае глыбокі цёмна-бурштынавы колер.



**– У конкурсе «Піва за Беларусь» перамаглі «Старажытнае» і «Портэр». «Леў» таксама заняў не апошняе месца. Чым розьняцца гэтыя, усе цёмныя, гатункі?**

– Перш за ўсё шчыльнасьцю – масаваю доляй сухіх рэчываў, распушчаных у напоі. «Старажытнае» варыцца на канцэнтрацыі кваснога сусла і мае шчыльнасьць 12 %, а "Леў" і "Портэр" гатуюцца на карамельным сусьле і маюць шчыльнасьць адпаведна 13 % и 20 %. Гатункі адрозьніваюцца таксама і масаваю доляй сьпірту – у «Старажытным», напрыклад, яна можа дасягаць 16 %. Розьніцца і час даброджваньня. Даўжэй за ўсіх даброджвае "Портэр" – 50 дзён, а вось для піва кшталту "Жыгулёўскага" дастаткова 21 дня.

**– Чым вы растлумачыце той факт, што "Жыгулёўскае" прызнанае самым горшым гатункам?**

– Цяжка сказаць. Магчыма, сыравіна ў гэтым годзе ня вельмі ўдалая. Дарэчы, гатунак "Крыніца-1" – гэта, фактычна, тыя самыя "Жыгулі". Давялося перайменаваць, бо прадаваць у Расеі піва з назовам "Жыгулёўскае" мы папросту ня маем права. А вось "Крыніца-2, -3, -4" – нашы ўласныя распрацоўкі.

**– Як ствараецца новы гатунак?**

– Нельга проста выгукнуць "эўрыка!" і адразу зварыць новае піва. У яго стварэньні ўдзельнічаюць амаль усе супрацоўнікі – галоўны півавар, астатняе начальства, тэхнолягі, лябараторыя зьбіраюцца разам і абгаворваюць склад новага гатунку, падбіраюць сыравіну. У піва звычайна няма пэўнага аўтара, але і тут бываюць выняткі. Так, ідэю стварыць піва "Леў" прапанаваў пару год таму сам генэральны дырэктар "Крыніцы" сп. Бадроў. А вось гатунак "Дражня" (па паказальніках таксама вельмі падобны да "Жыгулёўскага") не прыжыўся. Большасьць пакупнікоў проста не разумелі назвы і піва раскуплялася ня так, як нам гэтага хацелася б.

**– Ці можаце вы параўнаць беларускае піва і прадукцыю заходнеэўрапейскіх бровараў?**

– Гэта зрабіць досыць цяжка, бо падыходы да піва там і тут вельмі розныя. Заходняе піва ўтрымлівае шмат алкаголю і таму мае меншую шчыльнасьць. Асабіста мне яно падаецца трохі пустым на смак, таму мне больш падабаецца беларускае, асабліва – "Менскае". Дарэчы, у нас на заводзе жанчыны любяць цёмнае, а мужчыны – сьветлае піва. Але гэта ўжо справа густу. "Крыніца" вырабляе каля 6,5–6,7 мільёнаў дэкалітраў піва ў год, выбіраць ёсьць з чаго. ■



# НАША НІВА 90 ГАДОЎ ТАМУ

**16 ліпеня 1909 году**

**В. Лысая Гара** Віл. губ. Станіслаў Барэвіч, угледзіўшы на сваім полі чужое цялё, хацеў яго забраць у хлеў, але надбеглі гаспадары цяляці — Яконіс, жонка яго і дзеці з нажамі і тапарамі і забілі яго. Надбег на гэта Язэп Барэвіч — яны і таго прыкончылі; паказаўся сусед — Міхайла Давідовіч, — і гэтаму адабралі жыцьцё; на крык прыбегла жонка Давідовіча і Язэп Васілеўскі, — Яконісы і іх страшэньне пакалечылі. Зьвяроў гэтых арыштавалі.

**С. Трасьцяніца**, Бельск. пав., Гродз. губ., Ратайчыцк. вол. Вясковыя хлопцы зайшліся да аднаго жыда, калі там сядзеў і піў гарэлку вураднік. Хлопцы хацелі, каб і ім жыд даў гарэлкі, але той ня даў. — «Чаму ж чыноўнікам можна, а нам — не?» — пытаюць хлопцы ды падалі гэтаму самаму вурадніку жалабу на жыда, што той цішком прадае гарэлку; але вураднік жалабу зьніштожыў. Тады хлопцы напісалі губэрнатару. Вурадніка перамяшчаюць у другое месца.

*Nemo*

**Паштовая скрынка. М. Чашнікі**, Лепельск. пав., Віцебск. губ. *Я.Ж.* Лепш адслужыце, калі іначай ня можна. Ваш плян трохі фантастычны; рэдактар ня ў сілах гэтага зрабіць. ■

прыватныя абвесткі

Пазнаёмлюся зь дзяўчынай зь «Белага легіёну» Чырвонаармеец А. Тэл.: 220-46-52.

Ажанюся з працавітай дзяўчынай (жанчынай). Жыву ў мястэчку непадалёку ад Воршы. Мне 32 гады, рост 164, характар сарамяжлівы, маю некалькі рабочых спэцыяльнасьцяў, працай забясьпечаны. 210001, Аляксандру, а/с 39, Віцебск-1

Наталька і Аленка В.! Тэлефануйце на нумар 52-44-06.

Пазнаёмлюся для сямейнага жыцьця з сур'ёзнай жанчынай ад 18 да 35 гадоў. Мне 35 год, рост 162, жыву ў мястэчку, працую, алькаголем не захапляюся, палю. 210021, Анатолю, а/с 21, Віцебск-21

Куплю часапіс «Крыніца» № 49, 50, 51 ці памяняю на добрыя кнігі. Тэл.: 263-37-48, Лявон

Šukaju biełaruskija ŁACINSKIJA šryfty dla Windows 3.1 (z usimi nieabchodnymi litarami — č, š, ž, ŭ, ł, ć, ś, i h.d.). Kali niama dla 3.1, budu ŭdziačny za šryft dla 95-ki. uladzimir@jennifer.minsk.by, tel.: 215-77-21, Uładzi

Biełaruskija web-majstry, adhuknicieśia! Jošć šerah prapanovaŭ u stvareńni novych web-sajtaŭ. uladzimir@jennifer.minsk.by, tel.: 215-77-21, Uładzi

Хлопец (23), 2 в/а, сымпатычны, малдаванін, шукае сябра па перапісцы — мужчыну, які дапаможа ўладкавацца на працу. Дурных, жанатых, асьпірантаў, студэнтаў і людзей з даходам да 50 у.а. прашу не ліставацца. 220073, Менск-73, а/с 187

Прэзэнтую добрым людзям двух файных кацянятаў — шэрую котку й белага коціка. Няхай прынясуць камусьці радасьць. Тэл.: 237-40-20, Тацяна Сьнітко

У абдымках віцебскай князёўны ўсе думкі пра Юрася-журбу. Дзьвінскае сутоньне. Віцебск

Чароўную беларусачку Алену Нупрэйчык віншуюць з Днём народзінаў яе сябры Маша і Артур

Зорачку-зьнічку Алену Нупрэйчык віншуем з Днём народзінаў і жадаем адшукаць сваю Кветку Шчасьця! Капцюгі

Мілая Алена! З Днём Анёла! Няхай на тваім жыцьцёвым небасхіле заўсёды зьзяе сонейка! Siankievič

Усім, хто паступае ў БДУ на «хімфак», жадаю посьпеху. Асобнае прывітаньне Андрэю ад Сяргея. Апрэм Сяргей

Таталітарная дзяржава — вораг чалавеку, дэмакратычная — яго слуга. Дзяржавы над чалавекам не павінна быць. Вячаслаў Мілкоўскі

Прапануем в/а працу ў хаце (250 у.а.). Гэта Вы можаце! Укладзіце 2 капэрты (1 са зв/а) + купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

Бясплатна вышлем у падарунак Біблію, Дзіцячую Біблію, хрысьціянскую літаратуру і касэты. Ад вас: купон б/а, капэрта для адказу. 210021, Віцебск-21, а/с 21

Але хто хоча ўсё рабіць законна? Галоўны пастар жвачны сам, а косьць Ягоных капытоў не расчлянёна. Дантэ Аліг'еры

**Мы друкуем таксама абвесткі большым шрыфтам і ў аформленым выглядзе, але за невялікую плату:**
*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява (мінімальны памер рэклямнага модулю 18 кв. см) — 180 000 руб.;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад 25 000 руб. за 1 кв. см.*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

паштовая скрынка

**Вользе Л.** зь Менску. *Некаторыя кажуць, што слова «інтэлігенцыя» нарадзілася не ў расейскай мове, а ў польскай. Нацыянальная саматоеснасьць (ідэнтычнасьць) можа грунтавацца і на будучыні, а ня толькі на мінулым — на імкненьні да будучыні.*

*Калі сапраўды перакладчыкі пераклададзь «le cafard est partout» як «таракан бегает повсюду», напішыце пра гэта таксама ў службу культуры францускай амбасады, бо ўсё ладзяць яны. Гэта добрая нагода, каб папрасіць іх перакладаць фільмы на беларускую мову, а не на расейскую. Крытыкаваць ня бойцеся, на гэтым сьвет стаіць.*

**Алесю** зь Берасьця. *Ад «Кока-колы» яшчэ ніхто не паміраў, хаця й смаку ў ёй вялікага, мусіць, няма. Навуку будзем друкаваць.*

**Раману Р.** зь Севастопалю. *Мы рады, што асьвяцілі Вы ікону Еўфрасіньні, што над Вашым стэндам пад час гуляньняў развяваўся бел-чырвона-белы сьцяг, што трымалі Вы «Пагоню» і Максіма — гэта рэчы простыя, але сьвятыя. Пра Аляксандра Казарскага напішыце нам болей. Добра, што на Вашу прапанову ў памяць пра яго Дубройне флёт падорыць якар. За гэта дзякуй і адміралу. Капітан першага рангу Валеры К. хай дашле нам свае вершы. Але не забывайцеся іншы раз зьезьдзіць да Максіма магілу пачысьціць.*



НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______

Імя і прозьвішча ______

Адрас, тэлефон ______

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец.
Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік.
Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва».
Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537.
Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

 Наклад 2830. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18⁰⁵, 11.07.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N3456
Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12